# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966
Лістапад-
Сьнежань

Год XIV
№ 6 (99)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIV** **November—December** **№ 6 (99)**
**1966**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

**Год XIV** **ЛІСТАПАД — СЬНЕЖАНЬ** **№ 6 (99)**


## Каляднае Пасланьне Я. Д. Біскупа Чэслава Сіповіча

*Дарагія Браты і Сёстры!*

*Хрыстос — Божае Слова — стаўся целам, стаўся чалавекам як кожны з нас. Праз сваё ўцелаўленьне Ён зьяўляецца закладчыкам новай эры ў людзкой гісторыі.*

*І чаму-ж мы маем прыпамінаць гэты факт кожнага году, а там, дзе ўладарыць запраўдная свабода, абходзіць сьвята Каляд вельмі ўрачыста пад гукі званоў, пры гарэньні шматлікіх ахвяраваных сьвечак?*

*Ува ўсім гэтым ёсьць вялікі сукрыты зьмест.*

*Праз вонкавыя знакі і абрады мы выказваем асаблівую пашану да Хрыста і Яго навукі, безь якой — мы пераканаsuccessfully — няма сэнсу, а нават і магчымасьці інаваньня самога сьвету з усей яго красой і г. зв. прагрэсам.*

*Хрыстос — фундамант і маралная апора сьвету.*

*Сваё пасланьне Ён выявіў словамі: «Дадзена мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзеце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам». (Мат. 28, 18—20).*

*Падобна як некалі Бог гаварыў да Абрагама, абяцаючы размножыць яго пакаленьне, так Хрыстос зьвяртаецца да Апосталаў. Ён іх пасылае, Ён абяцае аставацца зь імі да сканчэньня сьвету.*

*У невялікай грамадцы Апосталаў Хрыстос бачыць усё чалавецтва: калі-б яны Яго адкінулі, дык іхняя пастанова мела-б вагу для ўсіх людзей.*

*Дзіўная лёгіка людзкога збаўленьня: на самым пачатку існаваньня чалавека на зямлі адказным за ўсіх ёсьць роданачальнік усіх Адам. Кожны зь людзей меў частку свайго «Я» ў учынках Адама.*

*Пазьней бацькам мэсыянскае ідэі, Божага абяцаньня, зьяўляецца Абрагам, якога Бог паклікаў да гэраізму і які апраўдаў Божыя пляны.*

*Нарэшце, калі ўсё прадказанае прарокамі, асабліва ў адносінах да народу, з якога меў выйсьці Мэсія, споўнілася, на абмежанай тэрыторыі, у асяродзьдзі характэрным для аднаго толькі народу, жыве і навучае Сын Чалавечы. Народ той — із сваею веліччу і із сваімі слабасьцямі — становіцца люстрам усяго чалавецтва. Хрыстос бічуе яго заганы, прастуе крывыя сьцежкі. Гэтую місію Ён выконвае толькі дзеля любові яго і ўсяго чалавецтва.*

*Бог ёсьць валадаром сьвету, але спосаб, які Ён выбраў дзеля збаўленьня сьвету, ня быў валадарны. З хвілінай прыходу на зямлю Ён становіцца дзіўна слабым: быццам пры ўваходзе на гэты сьвет Бог пакінуў сваю магутнасьць. Толькі час ад часу, як маланка летняю ноччу, праз свае цуды Хрыстос паказваў сваю моц. Але яна нікога не асьляпіла: пашана да вольнае волі чалавека астаецца і чалавек можа Бога-Хрыста прызнаць або адкінуць.*

*Чаму Бог гэтак рашуча шануе нашую вольную волю?*

*Бо людзкое існаваньне ў плянах Божых апіраецца ня толькі на акце тварэньня, але і на той праўдзе, што Божая ўсёмагутнасьць карануецца свабодным, добраахвотным прыняцьцем Бога і Яго волі.*

*Калі-б чалавек існаваў як камень, жыў як расьліна — тады ён ня меў-бы свабоднага выбару, а тымсамым ня быў-бы чалавекам! Веліч чалавека ў тым, што ён сьведама пазнае Бога, праўду і ўсё гэта дабравольна прыймае. Там дзе пэўныя ідэі прымусова прышчэпліваюцца людзям, там зьмяншаецца чалавек.*

*Зь людзьмі паўтараецца ўсьцяж тое, аб чым гаварыў сам Хрыстос у прыповесьці аб багачу, які запрасіў многіх на банкет. Запрошаныя аднак сталі адмаўляцца дзеля розных матываў: адзін купіў зямлю і жадаў паглядзець яе; другі казаў, што купіў пяць пар валоў і зьбіраўся іх выпрабаваць; трэці выбачаўся ад банкету таму, што нядаўна ажаніўся. (Лука 14, 16—24).*

*У гэтай прыповесьці банкет трэба разумець як Божае валадарства, валадарства ласкі або духовае жыцьцё.*

*Праз дзьве тысячы гадоў Хрыстос і Яго Царква клічуць людзей на банкет да новага*

# Мяшаныя сужэнствы

На шляху да злучэньня хрысьціянскіх Цэркваў ёсьць важная справа мяшаных сужэнстваў. Звычайна праз сужэнства хтосьці адпадае ад Царквы і прылучаецца да іншае. Часта такое прылучэньне бывае толькі фармальнае, як кажуць, «дзеля вока». Усё-ж бывае магчымасьць, што праз гэта адна група вернікаў павялічваецца, а іншая зьмяншаецца. Тымсамым можа распаліваццца зайздрасьць і незадаваленьне ў сям'і і сярод грамадзян той самае дзяржавы. Дык у ідэальным парадку, а таксама дзеля дабра сям'і, было-б пажаданым, каб жаніхі дабіраліся, калі ня той самай рэлігіі, дык прынамсі тых самых перакананьняў адносна галоўных асноваў хрысьціянства. У сяньняшнім аднак вельмі перамяшаным рэлігійна грамадзтве — дзеля абыякавасьці бацькоў і іхных дзяцей да ўсяго таго, што зьвязана з рэлігіяй — амаль што немагчыма ўнікнуць мяшаных сужэнстваў.

Калі сужэнствам цікавяцца грамадзкія навукі, мэдыцына, дык нічога дзіўнага, што цікавіцца ім і Царква.

Праз здаровае сужэнства творыцца і здаровая сям'я, а сям'я зьяўляецца першай і галоўнай клетачкай людзкой грамады. Так як у мэдыцыне сьцьверджана, што ад стану клетачак залежыць здароўе цэлага арганізму, тое самае можна сказаць і аб усім чалавецтве: калі будуць моцныя здаровыя сем'і, дык будзе моцная і здаровая дзяржава, а ў далейшым і ўсё чалавецтва.

Мала аднак прыйсьці чалавеку на сьвет, — трэба яшчэ яго выхаваць.

Ці-ж ёсьць магчымасьць належна выхаваць дзяцей у той сям'і, дзе існуе карэнная розьніца між бацькамі адносна этычных перакананьняў, або ў справах веры і яе практыкі?

Таму хрыстовая Царква заўсёды была вельмі клапатлівай у справе рэгуляваньня мяшаных сужэнстваў. Царква жыве і тасуецца да эпохі, у якой выконвае Божую місію, таму ў пэўных нясутных рэчах адносна сужэнства яна зьмяняе свае заганы. Ува ўсім аднак гэтым ня можа быць парушана права натуры і Божае права. Прыкладам: ніхто ня можа вымагаць ад асобы, каб яна дзеля сужэнства выракалася сваей веры ці яе супраць сваей волі зьмяніла.

У сувязі зь нядаўна апублікаванай новай Інструкцыяй адносна мяшаных сужэнстваў мы затрымаемся і разважым, як Каталіцкая Царква вырашае гэтую справу ў новай Інструкцыі.

## I

Дагэтуль Катал. Царква кіравалася прынцыпам кананічнага права, канон 1060:

«Наймацней усюды забараняе Царква ўваходзіць у сужэнства дзьвём ахрышчаным асобам, зь якіх адна ёсьць каталіцкае рэлігіі, а другая належыць да сэкты гэрэтыцкай або схізматыкай: у выпадку, калі-б заіснавала небясьпека рэлігійнага адступніцтва для каталіцкай стараны і нашчадкаў, тады сужэнства забараняецца самым Божым законам».

Згодна з духам гэтага канону перад шлюбам вымагалася ад некаталіцкае стараны прырачэньня, што ня прычыніць рэлігійнага адступніцтва для свайго контрагента. І ад абодвых старон вымагалася забавязаньне, што іхныя дзеці будуць ахрышчаны ў Каталіцкай Царкве, а таксама выхаваныя паводле каталіцкай веры.

Звычайна гэтыя забавязаньні і прырачэньні рабіліся на пісьме. Калі аднак здаралася, што каталіцкая старана, не зважаючы на царкоўнае права, брала шлюб зь некаталікам

---

*жыцьця ласкі. Клічуць рознымі спосабамі, а таксама год у год сьвяткаваньнем Нараджэньня Хрыста або Каляд.*

*Шматлікія адгукнуліся на кліч Царквы і сваё жыцьцё захацелі ўладзіць паводля навукі Хрыста. Але шмат яшчэ ёсьць і такіх, што зусім Яго ня знаюць, не засьвяціла ім яшчэ бетлеемская зорка, або й горшае бывае, што некаторыя адракліся ад Хрыста. І спраўджаецца напісанае Апосталам Янам: «Было сьвятло на сьвеце, і сьвет праз Яго стаўся, і сьвет Яго не пазнаў. Да сваіх прыйшло і свае Яго ня прынялі». (Ян 1, 10—11).*

*Дарагія Браты і Сёстры!*

*У сьвяты Калядны Вечар, у дзень Нараджэньня Бога-чалавека сьпявайце сэрцам, паўтарайце ў думках і вуснамі прыгожыя малітвы Сьв. Царквы:*

*Хрыстос родзіцца — услаўляйце Яго!*
*Хрыстос на зямлі — спатыкайце Яго!*
*Хрыстос Бог наш!*

† Ч. СІПОВІЧ

Біскуп Тыт. Марыямітанскі
Ап. Візытатар Беларусаў

Рым, Каляды 1966

без царкоўнага дазволу і ў некаталіцкай сьвятыні, тады сужэнства лічылася неважным. Далейшым вынікам было тое, што дзеці з такога сужэнства ў вачах Царквы лічыліся за нелегальна народжаных, а каталік ці каталічка былі пад экскамунікай, г. зн. адлучанымі ад Царквы і — за выняткам хвіліны сьмерці — —ніякі сьвятар ня мог даць ім разграшэньня на споведзі.

Няма сумніву, што гэтае суровае права прычыняла шмат недаразуменьняў у адносінах між хрысьціянамі і асабліва між каталікамі і праваслаўнымі, якіх веравызнаньні вельмі блізкія.

Другі Ватыканскі Сабор зьвярнуў увагу і на мяшаныя сужэнствы. Сам Сабор выдаў у гэтай справе толькі адзін дэкрэт, якога дух праявіўся да пэўнай меры і ў нова выданай Інструкцыі («L'Osservatore Romano» выдрукавала яе дня 19 сакавіка 1966 г.), падпісаней кардыналам Оттавіяні, заступнікам прэфэкта Конгрэгацыі для спраў веры. Над гэтай Інструкцыяй, якая мае толькі экспэрымэнтальны або часовы характар, затрымаемся крыху даўжэй.

II

У Інструкцыі захавалася сутнасьць традыцыйнай навукі Царквы: каталіцкая старана ёсьць забавязана пераказаць нашчадкам сваю рэлігію. Аднак бярэцца пад увагу права кажнага да сужэнства і да свабоднага вызнаваньня рэлігіі згодна з сумленьнем. Таму цяпер Царква дазваляе на мяшанае сужэнства нават тады, калі няма амаль ніякае надзеі, што патомства будзе ўзгадавана ў каталіцкай веры. Хопіць, калі з боку каталіцкага партнэра будзе добрая воля зрабіць усё магчымае.

У тых краінах, дзе хрысьціян вельмі мала, мясцовы Біскуп можа дыспэнсаваць ад перашкоды да сужэнства вынікаючай зь мяшанай рэлігіі нават і ў такім выпадку, калі няма гваранцыі з боку жаніхоў на ўзгадаваньне хрысьціянскае. Звычайна аднак Біскуп павінен аднесьці справу да Апостальскай Сталіцы і чакаць яе вырашэньня.

Дагэтуль згодна з кананічным правам (канон 1061 § 1 № 2) вымагалася, каб абедзьве стараны — каталіцкая і некаталіцкая забавязаліся хрысьціць дзяцей пакаталіцку і выхоўваць пакаталіцку. Цяпер Інструкцыя робіць даволі шырокую агаворку:

«Мясцовы Біскуп або парах каталіка павінен у якнайбольш важкіх справах і перакануўча павучыць аб абавязку хросту і выхаваньні будучага патомства ў каталіцкай рэлігіі. Забавязаньне гэтае павінна быць замацавана подпісам пры выразным прырачэньні... Калі аднак жаніх некаталік уважаў-бы, што падобнага абяцаньня — без нарушэньня супакою свайго сумленьня — зрабіць ня можа, дык мясцовы Біскуп у такім выпадку ўсю справу перакажа Апостальскай Сталіцы».

Трэба лічыць амаль пэўным, што Апостальская Сталіца, разгледзіўшы справу, дазволіць на мяшанае сужэнства без г. зв. забавязаньняў з боку жаніха некаталіцкага.

III

Іншы вельмі істотны элемэнт для важнасьці сужэнства ёсьць кананічная форма шлюбу Паводле дасюлешняга права да важнасьці сужэнства каталікоў, а таксама і ў сужэнствах мяшаных, вымагаецца захаваць наступны ўмовы:

1) каб шлюб быў зроблены ў прысутнасьці Біскупа або сьвятара параха, або сьвятара, які мае адпаведнае паўнамоцтва.

2) патрэбна прысутнасьць двух сьведкаў,

3) і патрэба браць шлюб у царкве або ў іншым адпаведным мейсцы...

Трэба ведаць, што паводле каталіцкага навучаньня Біскуп або сьвятар павінны багаславіць сужэнства (падчас шлюбу) ад імя Царквы, але фактычнымі контрагэнтамі зьяўляюцца самі маладыя і яны, а ня іншы, удзяляюць самі сабе сакрамант (тайніцу) сужэнства... Таму ў пэўных абставінах, (калі да сужэнства няма іншых кананічных перашкодаў), сужэнства ёсьць важным і бяз сьвятара або Біскупа, прыкладам у Савецкім Саюзе ці ў Кітаі, дзе падчас перасьледу рэлігіі або зусім няма сьвятароў або вельмі іх мала.

Каб аднак унікнуць сужэнстваў патаемных, пры якіх звычайна здараюцца розныя злоўжыцьці, ад часаў Трыдэнцкага Сабору Каталіцкая Царква прывязвае вялікую вагу да кананічнай формы, гэта значыць, каб пры шлюбе былі захаваныя ўсе вышэйўспомненыя ўмовы. Гэтага вымагае кананічнае права — (канон 1094).

Аднак здаралася, што захаваць поўнасьцю кананічную форму было вельмі трудна, асабліва пры рэлігійна мяшаных сужэнствах. Бось робіцца каталікам гэтакі закід: Каталіцкая Царква — ў пэўных абставінах — прызнае важнасьць сужэнства без сьвятара, дык чаму ня хоча прызнаць таго, што адбылося ў прысутнасьці праваслаўнага або англіканскага сьвятара? Або чаму няважным ёсьць сужэнства, што адбылося не ў каталіцкай сьвятыні?

Вось-жа нядаўна Інструкцыя і да гэтае вельмі далікатнае праблемы падыходзіць ужо ня так востра, як яно было дагэтуль. Хоць і надалей астаецца ў цэлай правамоцнасьці ка-



ВІЛЬНЯ: *Касьцёл Сьв. Міхала (Фундацыя Льва Сапегі): цудоўная архітэктура: цяпер апушчаны і зьняважаны — абернуты на склад рознае дрэні.*

нанічная форма, але — ў выпадку пэўных цяжкасьцяў — мясцовы Біскуп мае зрэфэраваць справу Апостальскай Сталіцы, якая зможа звольніць ад захаваньня права прадпісанай кананічнай формы. Гэтая практыка выглядае наступна: шлюб мог-бы адбыцца ў некаталіцкай сьвятыні перад некаталіцкім сьвятаром і сужэнства будзе ўважанае за важнае.

Усё, што мы дагэтуль сказалі, адносіцца да мяшаных сужэнстваў каталікоў лацінскага абраду. Зусім інакш выглядае справа каталікоў розных усходніх абрадаў. Крыху шырэй выясьнім гэта далей.

### IV

Справа мяшаных сужэнстваў каталікоў усходніх абрадаў з некаталікамі была вырашана на апошнім Саборы. Дэкрэт, які адносіцца да мяшаных сужэнстваў, ёсьць наступнага зьместу:

«Дзеля таго, каб не дапусьціць да няважных сужэнстваў каталікоў усходняга абраду з хрысьціянамі таго самага абраду і каб узмоцніць і ўсьвяціць сужэнствы і сямейнае сужыцьцё, Сьвяцейшы Сабор пастанаўляе, што ў такіх сужэнствах выпадае (quoad liceitatem) прытрымоўвацца кананічнай формы шлюбу, але для іх важнасьці (ad validitatem) хопіць прысутнасьць сьвятара, захоўваючы пры гэтым усё іншае правам вымаганае». (Дэкрэт аб Усходніх Цэрквах, арт. 18).

Значыць, паводле гэтага дэкрэту, калі каталік усходняга абраду жэніцца з праваслаўнай, дык іхны шлюб звычайна павінен адбыцца ў каталіцкай царкве перад каталіцкім сьвятаром. Аднак, калі-б гэты шлюб адбыўся і перад праваслаўным сьвятаром, таксама сужэнства будзе важным.

Магчыма здасца дзіўным, што цяпер атрымалася ў Каталіцкай Царкве адносна мяшаных сужэнстваў: выразная супярэчнасьць! Да каталікоў лацінскага абраду кананічнае права тасуецца больш сьцісла, чым да каталікоў усходнікаў.

На гэтае мы адказваем. — Перадусім трэба ведаць, што дагэтуль існуючыя кодэксы царкоўнага права маюць быць зьмененыя і над зьменамі і папраўкамі працуе камісія

юрыстаў ужо ад пэўнага часу. Выдадзеная Інструкцыя для каталікоў лацінскага абраду мае часовы характар, аб чым сьведчыць і тое, што падпісаў яе не сам Папа Павал VI, а толькі кардынал Оттавіяні.

Урэшце, што датычыць каталікоў усходняга абраду і праваслаўных, прызнаючы важнасьць сужэнстваў, Сабор пацьвердзіў канкрэтна тое, што сьвятыя тайны або сакраманты Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы ёсьць аднолькавыя. Магчыма, што наступным крокам будзе аднолькавае правадаўства для ўсяе Каталіцкае Царквы. Дагэтуль яно было рознае, а гэта дзеля гістарычных падзеяў і розных звычаяў розных мясцовых Цэркваў, якія трэба шанаваць, а зьмяняць толькі ў надта важных патрэбах.

Рым, 25. X. 1966.

*а. Аляксандар Надсон*

# Сьвяты Кірыл Тураўскі

V

## ДОБРЫ ПАСТЫР

Амаль усё дарослае жыцьцё сьвятога Кірыла прайшло ў пастырскай дзейнасьці. Пачаў ён яе яшчэ ў манастыры, дзе быў для многіх духоўным настаўнікам. Апека і навучаньне паручаных яму Богам душаў сталіся ягонай галоўнай мэтай, калі ён быў пакліканы на Тураўскі япіскапскі пасад.

Кірыл меў высокае паняцьце аб япіскапскай годнасьці і зьвязаных з ею абавязках. Яму балела, калі бачыў, што нехта выкарыстоўвае япіскапскае становішча для недастойных мэтаў. Сумным прыкладам гэтага была без сумніву справа япіскапа Тодарца. Пакольні яна гразіла разьбіцьцём царкоўнай еднасьці ў Кіеўскай мітраполіі з вялікай шкодай для душаў, Кірыл ня мог аставацца з боку і маўчаць. З другой стараны ўсякая палеміка была для яго няпрыемнай. Разьвязка, якую ён знайшоў, гаворыць шмат аб ім, як чалавеку. Замест паніжацца да сваркі, Кірыл выкарыстаў справу Тодарца, каб напісаць твор, у якім ён мог-бы выясьніць свае погляды на Царкву і царкоўную ерархію. Такім творам была ягоная «Прыповесьць аб кульгавым і сьляпым». Кірыл выбраў тут алегарычны спосаб пісаньня, узяўшы за аснову ведамую ў усходня-славянскай царкоўнай пісьменнасьці прыповесьць, занесеную туды з усходніх, праўдападобна жыдоўскіх, крыніцаў. Пачынаецца яна тым, што «нейкі гаспадар пасадзіў вінаград, агарадзіў яго плотам, выкапаў студню зрабіў вароты, але не зачыніў іх. Адыходзячы ён разважаў так: ‚Каго я паўстаўлю сьцерагчы мой вінаграднік? Калі пастаўлю аднаго з маіх слугаў, дык той, ведаючы маю дабрату, абкрадзе маю маемасьць. Вось што зраблю: пастаўлю пры варотах кульгавага, а разам з ім сьляпога. Калі-б які вораг захацеў увайсьці і абакрасьці вінаграднік, дык кульгавы яго ўбачыць, а сьляпы пачуе. Калі-ж нехта з іх саміх захоча ўвайсьці ў вінаграднік, дык кульгавы ня зможа гэтага зрабіць дзеля сваіх хворых ногаў, а сьляпы, нават калі і ўвойдзе, то заблудзіць і згіне». Аднак старажы аказаліся хітрэйшымі, чым гаспадар думаў. Як толькі той адыйшоў, кульгавы сеў на сьляпога і пачаў паказваць яму дарогу. Такім чынам яны ўвайшлі ў вінаграднік і абкралі яго. Калі гаспадар даведаўся, аб тым, што сталася, ён паклікаў найперш сьляпога. Той яму адказаў: «Гаспадар, ты ведаеш, што я сьляпы і без праваднiка ня ведаю куды ісьці і не магу сам трапіць у ніводнае месца. нават калі-б і хацеў. Я ня чуў нікога, хто-б прайходзіў міма мяне цераз вароты, бо інакш пачаў-бы крычаць за ім. Думаю, гаспадар, што гэта кульгавы абакраў цябе». Тагды гаспадар прыказаў пільнаваць сьляпога, аж пакуль ён не пакліча кульгавага Калі-ж гэтых двух спаткаліся, яны пачалі абвінавачаць адзін другога: «Кульгавы сказаў: ‚Калі-б ты мяне не насіў, я сам ня мог-бы зайсьці, будучы кульгавым’. Сьляпы-ж адказаў: ‚Калі-б ты мне не паказваў дарогі, я-б туды сам зайсьці ня мог’». Наканец гаспадар, выслухаўшы іх, прыказаў завесьці іх у цямніцу на пакараньне.[57]

[57] Поўны назоў твору ёсьць: «Прыповесьць мніха Кірыла аб людзкой душы і целе, аб зьмёртвыхустаньні цела, і аб будучым судзе і муках».

Наагул «прыповесьць» зьяўляецца надзвычай цікавым творам. які прыцягнуў увагу такіх дасьледчыкаў, як Сухамлінаў (ор. cit. бб. 318—325), Франко (ор .cit. бб. 129—155) і Ерэмін (гл. И. Еремин, «Притча о слепце и хромце в древнерусской писменности», Изв. Отд. Русского Языка и Словесности АН СССР, т. 30, 1925, бб. 323—325).

У творы Кірыла ёсьць шмат дзіўнага і незразумелага. Напрыклад, ён лічыць сьв. Апостала Мацьвея аўтарам прыповесьці аб сьляпым і кульгавым. Безумоўна, пачатак прыповесьці мае некаторае падабенства да прыповесьці аб благіх вінаградарах (гл. Мт. 21, 31—40), аднак памылка Кірыла, які быў

Вобраз гаспадара наводзіць аўтара на думку аб Богу, у тым часе як вінаграднік з адчыненымі варотамі — гэта вобраз Царквы. «Царква, — кажа Кірыл, — ёсьць для ўсіх адчыненая. Яна для нас ёсьць маткаю, якая родзіць нас у хросьце і корміць тых, што жывуць у ёй».

Падобна таму, як гаспадар паставіў старажаў пры вінаградніку, так і ў Царкве Бог устанавіў ерархаў, каб сьцераглі сьвятых тайнаў:

«Так былі пастаўлены кульгавы з сьляпым сьцерагчы таго, што ўнутры, як патрыярхі, архіепіскапы і ігумены ёсьць пастаўлены між царквою і аўтаром сьцерагчы сьвятых тайнаў ад ворагаў Хрыстовых, гэта значыць ад гэрэтыкаў, злосных спакуснікаў, нячэсных грэхалюбцаў і дрэнных іншаверцаў».

Пытаньнем ерархіі ў Царкве Кірыл займаецца таксама ў сваім казаньні на Вербную Нядзелю. Вось што ён там кажа:

«Словы Евангельля, якія шматразова Хрыстос казаў дзеля збаўленьня людзей, ёсьць стравою для нашых душаў. Ягоны-ж слаўны і чэсны дом — царква — мае выдатных будаўнікоў: патрыярхаў, япіскапаў, сьвятароў і ігуменаў і ўсіх царкоўных настаўнікаў, якія, стаўшыся вераю і чысьцінёю жыцьця блізкімі Богу, атрымалі праз ласку Сьвятога Духа розныя дары навучаньня і аздараўленьня паводле меры дару Хрыстовага».

Такім чынам, паводле Кірыла, царкоўныя ерархі зьяўляюцца будаўнікамі Дому Божага, настаўнікамі і старажамі сьвятых тайнаў. Яны не самазванцы, але пастаўлены на гэтае становішча Богам і дзеля выконваньня сваіх абавязкаў кожны з іх атрымоўвае асобы дар Духа Сьвятога. Гэты дар даецца не адразу, але паступова, цераз меньшыя сьвячаньні, каб даць магчымасьць кандыдату падрыхтавацца адпаведна да паўнаты сьвятарства, якое мае япіскап:

«. . . Хрыстос, дзьмухнуўшы ў твар апосталам, сказаў: ‚Прыміце Духа Сьвятога'; [58] гэта быў ня поўны дар, але залог сьвятарства, бо Ён загадаў ім чакаць Сьвятога Духа, які ‚прыйшоўшы, да канца асьвяціць вас'. [59] Таксама япіскапы сьвяцяць падзякаў, чытачоў, дыяканаў. Усё гэта ня поўны дар, але толькі залог далейшых сьвячаньняў, каб маглі падрыхтавацца да дасканалага сьвятарства».

Сьвятарства такім чынам ёсьць нечым вялікім. Дзеля таго няма нічога горшага за недастойнае ўспрыйняцьце царкоўнай годнасьці:

«Нічога ня ёсьць так нялюбым Богу, як жаданьне ўзвышацца ў царкоўных годнасьцях; і нічога Яму так не агідна, як самаўпэўненая і вялічавая гордасьць тых, якія ўспрымаюць сьвятарства не паводле Бога».

Кірыл прыраўноўвае недастойнага кандыдата ў япіскапы да Адама, які «уладаючы ўсімі зямнымі багацьцямі, усімі жывёламі, морам і ўсімі стварэньнямі, якія там жывуць, маючы ўсяго паддастаткам у зямным раю, пакапіўся без пасьвячаньня на сьвятыя рэчы, зажадаўшы ўвайсьці з зямнога раю ў нябесны . . . Ён зрабіў так, як недастойны сьвятарства царкоўнік, які, затаіўшы свой грэх і ня дбаючы аб законе Божы, а толькі дзеля дачэснай славы ўзыйшоў на япіскапскі пасад».

Падобнымі да недастойных кандыдатаў зьяўляюцца тыя царкоўныя дастойнікі, якія жывуць без страху Божага. Да іх сьвяты Кірыл зьвяртаецца з перасьцярогаю:

«Зразумейце сяньня, неразумныя сярод людзей дастойнікі, разбэшчаныя сьвятары! Ці-ж Той, хто даў нам вушы, ня чуе і хто стварыў вочы, ня бачыць ? . . Ці-ж Той, хто навучае народы, не зразумее нашага грэшнага ўпадку? Госпад ведае дрэнныя думкі злых людзей: Ён скідае неправедных уладароў і адганяе ад аўтара нягодных сьвятароў. Ніякая годнасьць гэтага сьвету ня выбавіць ад мукі тых, якія ломяць Божыя прыказаньні».

Падобная перасьцярога знайходзіцца таксама ў казаньні на Нядзелю расслабленага:

«Гора таму, хто грэшыць пасьля прыняцьця духоўнага стану — гэта значыць манаштва і сьвятарства, — а нават самому япіскапу, які не баіцца Бога».

Каб не асталося ніякага сумніву, Кірыл сьцьвярджае катэгарычна:

---

адным з найлепшых знаўцаў сьв. Пісьма ў сваім часе, астаецца незразумелай. Адно толькі ёсьць пэўным, што прыповесьць дайшла да Кірыла ўжо ў хрысьціянскай форме, а не зь першапачатковых крыніцаў.

Побач з тэмаю Царквы і царкоўнай ерархіі Кірыл разьвівае ў прыповесьці тэму пасьмертнага жыцьця. Сьляпец для яго зьяўляецца вобразам душы, а кульгавы — цела. Ён робіць вывад, што душы памершых не атрымоўваюць адразу кары або нагароды ад Бога, але чакаюць агульнага зьмёртвыхустаньня. Хоць такі погляд і спатыкаецца ў некаторы, асабліва ўсходніх, ранейшых царкоўных пісьменьнікаў (напр., сьв. Афрат Сырыйскі, Фоцы, Тэафілякт Баўгарскі), аднак ён пярэчыць традыцыйнай навуцы Царквы, паводле якой душы памершых атрымоўваюць адразу пасьля сьмерці ўзнагароду або пакараньне за свае учынкі. Гэтае вучэньне зьяўляецца асноваю культу сьвятых, душы якіх ужо цяпер жывуць шчасьліва з Богам у небе. А мы бачылі, што Кірыл адзначаўся вялікай пабожнасьцю да сьвятых.

[58] Гл. Ян, 20, 22.

[59] Магчыма Кірыл мае на увеце Ян 16, 13, або Ап. Дэ. 1, 8.

«У якім-бы мы стане ня былі, мы знайходзімся далёка ад Бога, калі ў нас няма добрых учынкаў і жалю за грахі».

У словах «жаль за грахі» адчуваецца ўжо нота надзеі. Як добры пастыр і лекар душаў, Кірыл не агранічваецца дыягнозай хваробы, але адразу прапануе лекарства. Ён перасьцерагае сваіх упаўшых братоў, каб ня сьледавалі за прыкладам Юды, які, прадаўшы Хрыста, папоўніў другі страшны грэх, зьняверыўшыся ў Божае міласердзе:

«Дзеля гэтага не ўпадаем у роспач, як Юда і не ўсумнімся ў цялесным зьмёртвыхустаньні, як садукеі, але з пакутаю стукаем у Божыя дзьверы, пакуль Ён нам не адчыніць райскіх варотаў».

Няма ніякага сумніву, што Госпад пачуе гэты стук, бо

«Няма такога граху, які-б мог адолець Божае міласердзе».[60]

*

Сьвятасьць ня ведае нацыянальных межаў. З другой стараны сьвятыя, будучы людзьмі, належаць да таго ці іншага народу. Кожны народ зусім слушна ганарыцца сваімі сьвятымі, уважаючы іх за сваіх найлепшых сыноў, якіх сам Бог захацеў уславіць. Такім без сумніву для беларускага народу зьяўляецца сьвяты Кірыл Тураўскі.

Свае выдатныя здольнасьці і немалыя веды Кірыл аддаў на службу Богу. Будучы склонным да адзіноты, яму прышлося правесьці амаль усё жыцьцё ў актыўнай душпастырскай дзейнасьці для дабра іншых. У душы аднак Кірыл астаўся самотнікам. Астаўшы па сабе багатую літаратурную і духовую спадчыну, ён умеў так добра схаваць сваю асобу, што сяньня толькі з цяжкасьцю можна ўстанавіць галоўныя рысы ягонага жыцьця. Ён быццам усім сваім жыцьцём, ня меньш чым сваімі творамі, хацеў сказаць: «Ня нам, Госпадзе, ня нам, але імяні Твайму дай славу» (Пс. 113, 9).[61]

---

[60] Неабходна сказаць некалькі слоў аб мове сьв. Кірыла. У 11—12 стаг. пісьменнай мовай на Беларусі была мова царкоўных кнігаў, г. зн. стара, або царкоўна-славянская. Розьніца між гэтай мовай і жывой беларускай існавала ўжо тады, хоць яна ня была яшчэ такая вялікая, як цяпер. Беларускія пісьменьнікі, пішучы, час ад часу ўстаўлялі ў тэкст мясцовыя выражэньні, або пісалі словы згодна з мясцовай вымовай. Гэты працэс адбываўся хутчэй у сьвецкіх пісьменьнікаў, павальней у царкоўных. З часам беларускі элемэнт узмацняўся і адціскаў царкоўна-славянскі на другі плян. Такім чынам у пэўным сэнсе і з вялікімі засьцярогамі мову беларускіх пісьменьнікаў 11-га і 12-га стаг. можна назваць беларускай літаратурнай мовай у ейных пачатках. Такой была мова твораў сьвятога Кірыла. У аснаўным — —гэта царкоўна-славянская мова, у якой аднак спатыкаецца нямала мясцовых элемэнтаў. Вось некалькі прыкладаў:

Деелям; чимь (чым); падьяки (г. зн. іпадыяканы); пастух; Великы день; Да воскреснет Бог и да разидутся враги его; минувши суботе; книжници... пытають родителю; Сьниде бо на землю, никому не чювшю.

Такіх прыкладаў можна прывесьці далёка больш. Такім чынам нават з моўнага пункту гледжаньня Кірыл можа лічыцца беларускім пісьменьнікам. Гэта асабліва відавочна, калі напрыклад прыпомніць, што «польскі» пісьменьнік Ян Длугош яшчэ ў 15-тым стаг. пісаў па лаціне.

[61] Вось ліста галоўных выданьняў твораў сьвятога Кірыла ад пачатку 19-га стагодзьдзя:

1. К. Калайдович, Памятники российской словесности XII века. Москва 1821.

У кнізе памешчаныя ўсе казаньні і асцэтычныя творы сьвятога Кірыла, разам з некаторымі сумніўнымі.

2. М. И. Сухомлинов, Рукописи графа Уварова, т. II, СПБ, 1858. Творы сьв. Кірыла, якія знайходзіліся ў зборах Уварава. Вельмі добры ўступ.

3. А. И. Пономарев, Святой Кирилл Епископ Туровский и его поучения. Памятники древнерусской церковно-учительной литератури. Вып. I. СПб. 1894, бб. 87—198.

Казаньні сьв. Кірыла. Вельмі добры ўступ і паясьненьні.

4. Творения святога отца нашего Кирила, епископа Туровского. Издание Евгения, епископа Минского и Туровского. Кіеў 1888. Казаньні ў расейскім перакладзе. Малітвы і канон у арыгінале і расейскім перакладзе.

5. Молитвы на всю седмицу св. Кирилла епископа Туровского. Православный Собеседник, Казань 1857, бб. 235—260, 273—351.

6. Н. К. Никольский, Материалы для истории древнерусской духовной писменности. Сборник ОРЯС АН, т. 82, кн. 8, СПб. 1907. Канон у гонар сьв. Ольгі, а таксама рад сумніўных твораў.

7. И. П. Еремин, Литературное Наследие Кирилла Туровского. Труды Отдела Древнерусской Литературы АН СССР. Масква-Ленінград, т. 11, 1955, бб. 342—367; т. 12, 1956, бб. 340—361; т. 13, 1957, бб. 409—436; т. 15, 1958, бб. 331—348.

Найлепшае і найбольш крытычнае выданьне казаньняў сьв. Кірыла, папярэджанае бібліяграфічным аглядам. Гл. таксама выдатны артыкул гэтага самага аўтара: Ораторское искусство Кирилла Туровского, ТОДРЛ, т. 18, 1962, бб. 50—58.

Канец

*а. Я. Гэрмановіч*

# ТАМАШ МЭРТОН

Спадзяёмся, што Чытачом будзе цікава даведацца аб цяперашнім амэрыканскім пісьменьніку-манаху, якога кніжкі паангельску і ў перакладах на розныя мовы разыходзяцца па ўсім сьвеце.

Тамаш Мэртон нарадзіўся ў Новай Зэляндыі ў 1915 годзе. Ягоны бацька Овэн Мэртон, мастак і музыкант, любіў падарожнічаць: пераехаў у Лёндан, пасьля ў Парыж. У вандроўках спаткаў мілую амэрыканку, зь якой і ажаніўся. Падчас першае вайны ў іх нарадзіў сынок: далі імя Тамаш. І з Парыжа ўцяклі ад вайны ў Пірэнэі — аж апынуліся ў Амэрыцы! Там ім жылося бедна. Овэн Мэртон маляваў абразы і займаўся гароднітцвам — недалёка ад Нью Ёрку.

Бацькі Тамаша, хоць былі людзьмі чэснымі і разьвітымі, не далі дзецям ніякага рэлігійнага выхаваньня. Матка належыла да пратэстанскай веры квакераў, але да ніякае сьвятыні не хадзілі. Толькі выпадкова бабуля навучыла Тамаша малітвы «Ойча наш . . .»

Тамаш любіў слухаць, як званілі ў касьцёлах. Ён часта гаварыў бацьку: «Тата, вунь усе птушкі маюць свае гнёзды, як сьвятыні: чаму мы ня ідзём да сваей?»

Але бацька адказываў: «Цяпер ужо позна, мы пойдзем у другую нядзелю». Тамаш меў шэсьць год, як памерла ягоная маці, але ён за яе ня ўмеў маліцца. Дзяды забралі Тамаша і Яначку — ўнукаў — да сябе; а бацька, Овэн Мэртон, мастак-маляр, выехаў у Францыю, пасьля ў Афрыку і яшчэ недзе. А ў дзядоў гаварылі, што «ўсе рэлігіі добрыя, апрача каталіцкае».

Маючы 10 год Тамаш разам з бацькам езьдзіць па Францыі: ягоны бацька шукае пэйзажаў для малюнкаў. Разам адведываюць старыя касьцёлы і кляштары. Тамаш навучыўся пафранцуску і маючы 11 з паловай гадоў быў памешчаны ў ліцэй. У 1928 г. зноў пераехалі ў Англію. Тут быў залічаны да рэлігіі англіканскае, але выхаваньня і рэлігійнае навукі не атрымаў і тут!

У 1930 памірае бацька Тамаша, а дзед адклікае яго ў Амэрыку.

У дарозе Тамаш на сьмерць улюбіўся ў адну прыгожую пасажырку — проста ня меў ад гэтага супакою!

У Амэрыцы падпаў пад уплывы камунізму: пачаў студыяваць Маркса і іншыя кніжкі партыі. Але зноў вярнуўся ў Англію. У 1931 здае эгзамен у ўнівэрсытэт у Кэмбрыдж і пасьля едзе ў Італію.

У Рыме Тамаш Мэртон, сын мастака і сам мастак, ходзячы па музэях і касьцёлах, асабліва быў захоплены мазаікай у касьцеле Сьв Казьмы і Дам'яна: адведываў шмат касьцёлаў, але ўсё варочаўся да Казьмы. Асабліва яго пацягвала постаць Хрыста. У Міжчасе разважаў: «Хто такі Хрыстос?» — Так мала аб Ім ведаў ! . . Тады-ж купіў кніжачку «Новы Запавет»: чытаў, разважаў і пазнаваў сам сябе І вось зь дзівам заўважыў, што пачаў маліцца — ня вуснамі, ані розумам, але ўсею душою: прасіў Бога, якога ніколі ня знаў, каб разьвязаў яго ад «тысячы ланцугоў няволі». Назаўтра пайшоў да касьцёла сьвятой Сабіны і першы раз у жыцьці абмачыў руку ў сьвянцонай вадзе; падыйшоў да аўтара і ў пяршыню ўкленчыў і адмовіў «Ойча наш» — малітву, якую ўмеў змалку. А пасьля запісаў сваю думку: «Каталікі не разумеюць таго страшнага клопату, які адчувае навернены, калі моліцца публічна . . . яму здаецца, што ўсе зь яго сьмяюцца».

Пасьля гэтага Тамаш Мэртон чытаў Біблію, але ўжо ня кленчыў і больш не маліўся і скора зусім астыг. Зноў вярнуўся ў Кэмбрыдж. Меў 21 г. і пасьля пакінуў Эўропу на заўсёды.

Студыюе ў Амэрыцы на ўнівэрсытэце ў Калюмбіі. Зноў прыстае да камунізму. Вучыцца і чытае вельмі шмат, але справамі рэлігіі не займаецца зусім. «Але дзіўная рэч, студыюючы шмат і рознага матар'ялу, я пачуваўся зусім пусты», кажа аб сабе Мэртон.

Нарэшце трапіў на кніжкі, якія гаварылі аб Богу: гэта была філязофія рэлігіі, у якую пачаў заглыбляцца і цікавіцца. Найбольш паказалася яму рацыянальнай філязофія каталіцкая: у каталікоў вера акрэсьлена глыбока, проста і ясна. Прыяцель Мэртона, індус Брамахара, парадзіў яму чытаць кнігу «Насьледаваньне Хрыста» і «Споведзь»-Вызнаньне — сьв. Аўгустына. Гэтае чытаньне прывяло Мэртона да жыцьця наднатуральнага і яму раптам стрэліла думка, каб пасьвяціць сваё жыцьцё Богу ў сьвятарстве.

Аднак ня мог яшчэ адважыцца на каталіцкае набажэнства. «І вось — кажа — я пачуў унутраны голас: — Ідзі на Імшу! — голас мягкі і моцны». Гэта было ў жніўні, якраз у нядзелю. Ён пайшоў да касьцёла Божага Цела на вуліцы 121-ай у Нью Ёрку. Касьцёл быў у панадворку каледжа.

«Касьцёл — ён кажа — напаўнялі не старцы і не старушкі, што стаяць аднэй нагою

над гробам, але найбольш маладыя мужчыны і жанчыны і дзеці: людзі ўсякіх клясаў з сваімі сем'ямі. Усе яны — я ўважаў — былі занятыя Богам, а не самі сабою. Пасьля я даведаўся, што гэта было Эвангельле. Аж увайшоў на амбонію малады сьвятар. Ён гаварыў аб Хрысьце, аб Ягонай Боскай натуры і аб людзкой, аб збаўленьні і аб патрэбе ласкі. Якраз мне тады трэба было аб гэтым ведаць. Я тут знайшоў новы сьвет і выйшаў адтуль шчасьлівы». Далей чытаў новыя патрэбныя кнігі, але на сьв. Імшу больш не хадзіў! Ізноў вярнуўся да сваіх прыяцеляў і прыяцеляк і весяліўся зь імі. Толькі-ж кожны вечар адмаўляў: «Вітай, Марыя!»

Якраз тады шыкавалася ІІ-ая вайна, а Мэртон ненавідзеў вайны! У гэтым часе Божая ласка вельмі пачала яго непакоіць: «Чаго ты чакаеш? Ты ведаеш, што трэба рабіць: чаму ня робіш?»

Нарэшце адважыўся: у касьцеле Божага Цела папрасіў ахрысьціць. Прыгатаваньне адбыў пад рукой а. Моорэ, таго самага, што чуў навуку.

«Катэхізм — цудоўная справа: ён укараняе Божае слова ў душы добрай волі. Я гарэў пажаданьнем хросту і не апускаў прыгатаваньня».

Хрост адбыўся 16 лістапада 1938 г. Пісаў пасьля: «Усё ішло вельмі проста. Вялізныя горы зваліліся з маіх плеч: я веру, веру, веру!!!

Тамашу было 23 гады.

Конвэрыты пасьля хросту — бяз духоўнага правадыра — пачуваюцца апушчанымі і безнадзейнымі. Так і Мэртон стаў няздольны ўтрымаць энтузыязм і пабожнасьць: маліўся мала.

Піша аб сабе: «Я жадаў быць пісьменьнікам, паэтам, крытыкам, прафэсарам. Асьцерагацца забаваў. Мая мэта была — рэпутацыя і паводзіны».

Пісаў паэмы, навэлі — то ўдалыя, то няўдалыя. Вярнуўся ў Нью Ёрк у восені 1939. І вось неспадзявана аб'явіў таварышам: «Ведаеце вы, я пайду ў кляштар і стану сьвятаром!»

Прыяцелі думалі, што ён дзівачыцца. Але Тамаш сказаў і сваей паненцы: «Ведаеш, я буду сьвятаром!»

Нейк позным вечарам зайшоў у касьцёл сьв. Францішка Ксавэрага, у якім перш ня бываў. Там адбывалася набажэнства.

«Там я сказаў Хрысту: — Так, я хачу стаць сьвятаром. Калі твая такая воля, памажы, каб я быў сьвятаром!»

Асабліва пацягіваў яго францішканскі ідэал і Тамаш напісаў просьбу ў кляштар сьв. Францішка ў Нью Ёрку. Аднак раптам захапіў яго прыпадак апэндыцыту: апэрацыя і даўжэйшы адпачынак. Тады чытаў «Рай» Дантэ і кнігі філязофіі Марытэна. Быў на вакацыі ў свайго дзядзькі і ахвяраваўся Матцы Боскай, калі паможа стаць сьвятаром, дык першую сьвятую Імшу адправіць у Яе чэсьць.

У гэтым часе заклікалі яго ў войска, бо трывала вайна, аднак дахтары прызналі яго няздольным да вайсковай службы.

Нарэшце, маючы 26 гадоў, Тамаш Мэртон скіраваўся да закону Трапістаў. Гэта вельмі суровы закон. Там у сьціслым маўчаньні, у працы і ў малітве, (устаць у ночы а 2-ой гадзіне на малітву!), у цьвёрдай адзежы і пасьцелі праводзяць час у пакуце.

І яшчэ што дзіўное: некаторыя амэрыканскія маладыя людзі, кончыўшы вышэйшыя студыі, ціснуцца ў такія суровыя законы, пакідаючы распушчанае жыцьцё і вялікія выгоды...

Ужо здавалася, што Тамаш устаткаваўся ў кляштары, але ён і яшчэ ня ўступіў у закон! — Паехаў у Нью Ёрк і там працаваў у дабрадзейным таварыстве для нэафітаў (вернутых да веры) і ўжо меркаваў гэтым займацца заўсёды, разам з працай літэрацкай. Тут трапіла яму ў рукі кніжка-жыцьцяпіс сьв. Тарэсы з Лізье і абяцаў ёй: «Пакажы мне, малая Тарэска, што маю рабіць? Калі пайду ў манастыр, буду тваім манахам!»
І вось гэты раз пастанова была неадменная: ніколі не пачуваўся такім спакойным і пэўным. І тады спаткала яго другая вялікая радасьць: ягоны малодшы брат, Ян-Павал, навярнуўся і ахрысьціўся і прыняў першую Сьвятую Камунію (Прычасьце).

Першыя законныя шлюбы Тамаш, пад імянем Людвіка, меў у 1942 г. Тады таксама і ягоны прыяцель Боб Лякс ахрысьціўся і гасьціў у манастыры ў Мэртона.

Якую-ж будзе мець працу Тамаш Мэртон у суровым манастыры Трапістаў? У сваіх думках і пастановах ён цалкам разьвітаўся з пяром і паперай! Аднак галоўны Аббат-Гэнэрал загадаў яму, што — апрача малітвы і ручной працы — павінен пісаць прозай і вершамі, як і даўней, толькі аб справах Божых — для духовага дабра людзей. Бо гэтага вымагае законнае паслушэнства.

Цяпер Мэртон шыкаваўся да сьвятарства, студыяваў і пісаў.

Закончыўшы духоўную навуку, быў пасьвячаны ў 1949. Да гэтага часу напісаў некалькі кніжак асцэтычных, стылям лёгкім, вобразным, цікавым і глыбокім. Ягоныя кніжкі перакладаюцца на розныя мовы і разыходзяцца па ўсім культурным сьвеце. Мэртон уважае, што гэта ягоная місія для вялікага дабра людзей і для Божае хвалы. Паміж ін-

# Весткі з царкоўнага жыцьця

ЛАЦІНСКАЯ МОВА астаецца касьцельнай мовай і не загіне, хоць будуць уведзены народныя мовы ў набажэнстве. Паводле волі Папы Паўла VI-га паўсюдна ў духоўных сэмінарыях будуць вучыць клерыкаў чытаць, пісаць і гаварыць па лаціне, каб сьвятары ўмелі маліцца ў гэтай мове і разумець яе. Так лаціна стане агульна зразумелай у Каталіцкай Царкве, ня горш, як было дасюль.

✳

ПАПА ПАВАЛ VI І У-ТАНГ заклікаюць увесь сьвет да згоды: Папа і Генэральны Сакратар ААН, ня гледзячы на ніякія перашкоды, хоць іх палітыкі і дыплёматы ня слухаюць, усьцяж заклікаюць неспакойны сьвет да міру. 19-га верасьня Папа выдаў новую энцыкліку, (як мы ўжо пісалі — № 4), у якой заклікае перарваць войны і канфлікты, стрымаць перагонку узбраеньня і засесьці за «круглы стол» мірных перамоваў. І таксама ў краёх, дзе яшчэ ўціскаецца рэлігія, наладзіць нармальныя адносіны.

У другой частцы энцыклікі Папа назначае спэцыяльныя малітвы аб міры ўва ўсім сьвеце; асабліва на гэтае празначаны месяц кастрычнік, месяц Божае Маці. Дык сёлетнія ражанцы хай будуць гарачай просьбай вернікаў, каб Міласэрны Бог, — малітвамі Багародзіцы — падараваў свой нябесны мір неспакойнаму чалавецтву!

«У імя Гасподне — гаворыць Папа ў энцыкліцы — мы заклікаем: — Стрымайцеся! — Трэба спаткацца, трэба прыступіць да чэсных і адкрытых перамоваў».

У Танг таксама зьвяртаецца да ўсіх дзяржаваў сьвету, каб клапаціліся ўстанавіць мір трывалы і справядлівы.

✳

ВАТЫКАН: Паводле жаданьня Сабору Папа прыпамінае ўсім біскупам, каб шыкаваліся перадаць сваю ўладу наступнікам, калі самі дажывуць да 75 гадоў веку. Некаторыя біскупы і кардыналы ўжо адразу падаліся ў дымісію. Аднак Рымская Курыя выясьніла, што дымісію сам Папа будзе прыймаць ад кажнага 75-гадовага — паводле варункаў і патрэбы, дык вось некаторым было загадана яшчэ трымацца месца.

✳

РЫМ, 9. X. 1966. Гэтага дня — ў нядзелю — адбылося адкрыцьцё выстаўкі «Царквы-Мучаніцы». У сьвятыні Сьв. Савы на Авэнтыне служылі з гэтае нагоды сьв. Літургію Архібіскуп Іван Бучко, Апост. Візытатар Украінцаў, Бп. Андрэй Каткоў, Ап. Віз. Расейцаў і Бп. Ч. Сіповіч, Ап. Віз. Беларусаў. Аб рэлігійным прасьледзе ў Савецкім Саюзе меў слова Арх. Бучко. Сьпяваў хор украінскай малой сэмінарыі ў Рыме

Выстаўка «Царква-Мучаніцы» мае некалькі тысяч экспанатаў, сярод якіх нямала адносіцца да Беларусі. Між іншым можна там бачыць малюнак селяніна, які праз драты зьвяртаецца да вольнага сьвету: «Браты, не забывайце пра нас!»

Каля дому выстаўкі пастаўлена 14 крыжоў, якія вызначаюць Крыжовую Дарогу Хрыста. У адумысловым правадніку-кніжачцы чытаем: «ІІ-я стацыя пасьвячаецца Царкве-Мучаніцы Украіны, Армэніі і Беларусі, выдатным сваею верай сярод 16-ці Савецкіх Рэспублікаў». У тэй самай кніжцы на бач. 109-ай ёсьць адумысловая Літанія да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Сярод розных клічаў у ёй маемо і такі: «Найсьвяцейшая і магутная Дзева Беларусі, Цябе молім — паслухай нас!»

Вялікай атракцыяй Выстаўкі ёсьць поўнае фото ўсяго бязбожнага музэю ў Ленінградзе.

Выстаўка служыць доказам ненавісьці атэістаў да Бога, да ўсякае рэлігіі і таксама доказам недарэчнасьці бязбожнікаў. Яны сіляцца змагацца з праўдаю і то ў імя прагрэсу! Таму змушаны перакручваць факты і маніць; а хто іх ня слухае, тых прасьледуюць і мучаць. Але такія натугі бязбожнікаў — дарэмныя і служаць доказам існаваньня Госпада Бога і праўдзівасьці Хрыстовае Царквы.

✳

Аб Кангрэсе Каталіцкіх Тэалёгаў у Рыме (ад 26. IX. да 1. X. 1966) пісалася ў розных часапі-

---

шымі ў сваей аўтабіяграфіі паказывае жыцьцё трапістаў — цьвёрдае, простае, зь людзкімі слабасьцямі, — падобнае да Хрыстовага жыцьця. якое вёў у поце і трудах і малітве — жыцьцё, якое не падабаецца грэшнаму сьвету, але якое ёсьць вялікай Божай Місіяй . . .

«Хто можа паняць, няхай разумее!»

Пусты сьвет, які марнее пры тэлевізіі, абкураны табачным дымам, абдурманены алькаголям, у пагоні за далярамі, выгодамі і распустай — такі сьвет не цяміць жыцьця працы і малітвы, посту і маўчаньня, такі сьвет не разумее ні Хрыста, ні Ягонае навукі . . .

А атомная бомба вісіць над галавою гэтага грэшнага сьвету. — Вось да чаго даводзіць фальшывая культура, якая — дзеля марнасьці не дбае аб веру ў Бога, аб разумнае жыцьцё на зямлі і вечнае шчасьце з Богам!

Дык няхай-жа хоць выбраныя ў Бога і пакліканыя да бліжэйшае Яго службы заступаюцца за нас і вымаляць для нас сапраўдны жаль за грахі і наварот да Бога!

«Хто можа паняць, хай разумее!»

сах. Сабралася іх да 1200 чал. Разважалі перад усім, як датарнаваць пасьля Сабору ягоныя пастановы да сучасных варункаў жыцьця. Быў гэта найвялікшы Кангрэс Тэалёгаў у гісторыі Царквы. А якія будуць яго вынікі? Пажывём, пабачым... Але ўжо самае спатканьне вучоных Тэалёгаў з цэлага сьвету бязумоўна стала вельмі карыснай зьявай у жыцьці сьв. Царквы; дый яны мелі аказію пазнаёміцца з рознымі думкамі і поглядамі, парадзіцца ў сумнівах, перадыскутаваць і паправіць свае памылкі. Гэта першае спатканьне ўзбудзіла перакананьне, што не павінна быць апошнім і не астанецца бяз добрых вынікаў.

✳

КАМЭРУН: У Цэнтральнай Афрыцы. У Камэруне, Конго — Брацавіль, Габоне і Чад адчыняецца супольная духоўная сэмінарыя для спозьненых кандыдатаў — у старшых гадах. Сэмінарыю будзе весьці таварыства Сьв. Апосталаў з Монтрэалю. З прычыны недахопу духавенства Катал. Царква ўжо здаўна дапускае да духоўнага стану ўласна такіх спозьненых, але здатных кандыдатаў.

✳

КАЛЮМБІЯ: У манастырах апостальскага вікарыяту д'Істміна законьнікі і законьніцы атрымалі ад Папы Паўла VI права выдаваць Сьвятое Прычасьце (Камунію) ў касьцёлах, у шпіталях і сірацінцах, калі няма там сьвятара або дыякана. Падобны індульт быў ужо выданы законьніцам у Бразыліі.

✳

МОЗАМБІК: Біскуп Г. Діаз Нэгэйра выдаў Пастырскі Ліст да «братоў Музульманаў», якіх лік у Мозамбіку роўны з каталікамі. — У зьвязку з тым, што ў 1967 годзе абходзіцца юбілей 60-ці годзьдзя аб'яўленьня Божае Маці ў Фатыме (Партугалія), а Фатыма была калісьці ў руках магамэтанаў, дык біскуп запрашае, каб магамэтане прылучыліся да гэтага сьвяткаваньня. Біскуп падкрэсьлівае, што Магамэт прызнаваў Ісуса Хрыста, як вялікага прарока, а Божую Маці вельмі паважаў і ў Каране аб ёй успамінаецца даволі часта... — Шкада толькі, што Магамэт знаў хрысьціянства толькі з апокрыфаў і з навукі тагачасных гэрэтыкаў.

✳

ПАРТУГАЛІЯ — Фатыма: У зьвязку з Юбілеям 50-ці годзьдзя аб'яўленьня Дзевы Марыі ў Фатыме ў 1967 г. адбудзецца там Кангрэс Марыялёгіі ў чэсьць Божае Маці. Такія Кангрэсы адбываюцца кажныя два гады ў розных краёх сьвету. У 1965 адбыўся ў рэспубліцы Дамініканa ў Сярэдняй Амэрыцы. На гэтых Кангрэсах чытаюцца лекцыі аб Найсьвяцейшай Дзеве, адбываецца ўрачыстае набажэнства і працэсія: людзі прыступаюць да споведзі і сьв. Камуніі. Гэта служыць да абнаўленьня духа людзей, асабліва ў тых краёх, дзе Кангрэс адбываецца і ў тых гарадох, якія бываюць на гэтае празначаны.

✳

НЯМЕЧЧЫНА — Дахаў: Тут быў вялізарны канцэнтрацыйны лягер, дзе гітлероўцы падчас вайны замучылі і спалілі вялізныя масы людзей. Цяпер на месцы лягераў пабудаваныя сьвятыні, музэі і інш. памятнікі людзкой Кальварыі.

Між іншымі да гэтае працы прыбылі летам дабравольныя кандыдаты — мяшаная група 32 чал. немцаў і французаў, якія бясплатна працавалі ў згодзе і любові — на знак адплаты Госпаду Богу за грахі іхных народаў падчас Вялікае вайны.

✳

АФРЫКА — Судан: Пасьля прасьледу Каталіцкіх місіяў суданскі ўрад хоча зноў навязаць нармальныя зносіны з хрысьціянамі: пазваляюць духавенству вярнуцца і адчыніць духоўныя сэмінарыі і школы.

✳

САВЕЦКІ САЮЗ — Ленінград: Газэты востра выступілі супраць моладзі, што ўводзіць «моду» насіць крыжыкі і іншыя адзнакі рэлігіі, бо — пішуць — «такія адзнакі паказываюць панаваньне няволі духа»...

✳

АФРЫКА — Бурунды: Тут адбыўся Кангрэс чорных жанчынаў. Чыталіся лекцыі: аб Місіі афрыканскае жанчыны, аб хрысьціянскім выхаваньні жанчыны, аб прыгатаваньні да сужэнства і іншыя вельмі паважныя і цікавыя рэфэраты.

✳

ЯПОНІЯ: Заўважана адраджэньне хрысьціянства. Найбольшым апосталам Каталіцкае Царквы быў тут сьвяты Францісь Ксавэры, які прыбыў у Японію ў 1549 г. Але пасьля 50 гадоў свабоды пачаўся жорсткі прасьлед вернікаў. Як вялікая была колькасьць каталікоў, відаць з таго, што падчас страшэннага прасьледу і забойстваў, каталікі паднялі паўстане ў абароне жыцьця і ў 1615 г. ў гэтым змаганьні згінула да 100 тысяч хрысьціян, а ў 1637 г. яшчэ 37 тысяч. Прытым страшэнна мучылі апорных, якія не хацелі пакінуць веру ў Хрыста: найбольш прынятым спосабам мучэньня было тое, што вешалі за ногі над разьведзеным вогнішчам. Часта разводзілі агонь ў яме, каб ахвяра даўжэй мучылася ў дыме — аж да павольнае сьмерці.

Аднак апорныя хрысьціяне трывалі таёмна аж да 1853 г., калі настала свабода веры, хоць яшчэ спачатку агранічаная.

✳

АМЭРЫКА — Вашынгтон: Тут адбыўся Кангрэс каталікоў летувісаў, якія маюць у Злучаных Штатах 141 парахвію. Усе сабраныя абзнаёміліся з палажэньнем Каталіцкае Царквы ў Летуве і зь вялікім сумам сьцьвердзілі, што прась-

лед рэлігіі ў Летуве трывае аж дасюль і што эміграцыя павінна прызнавацца да рэлігіі ня толькі словам, але ўсім жыцьцём! Падпісаная дэклярацыя галосіць: «Шлях летувісаў — з Хрыстом і што ўсё для Летувы, а Летува для Хрыста!»

*

ГАЛЯНДЫЯ: Выдана тут новы катахізм для дарослых, у якім няма пытаньняў і адказаў, але даецца выясьненьне праўдаў веры. Дзьве часткі катахізму: 1) Чалавек кіруецца да Бога і 2) Бог кіруецца да чалавека. — Катахізм выйшаў адначасова ў мове галяндзкай, ангельскай, францускай, гішпанскай, нямецкай, партугальскай і італьянскай. — Гэты катахізм укладала камісія тэалёгаў, вучоных і дасьведчаных душпастыраў і ён выклікаў вялікае зацікаўленьне ўва ўсім хрысьціянскім сьвеце.

*

ЛАЦІНСКАЯ АМЭРЫКА: Рада Біскупаў усяе Лацінскае Амэрыкі, (значыць, Сярэдняе і Паўдзённае Амэрыкі, якая гаворыць пагішпанску і партугальску), зацьвердзіла рэзалюцыю, што там *патрэбны глыбокія перамены ў структуры гаспадарскай і грамадзкай*. Патрэба таксама і Каталіцкай Царкве дастасавацца да гэтага разьвіцьця. Каталікі павінны лучыць свае намаганьні з працаю хрысьціян усяго сьвету, зь людзьмі іншых рэлігіяў і наагул з *усімі людзьмі «добрае волі»*. Гэтак Каталіцкая Царква Амэрыкі прычыніцца да пабудовы сусьветнага міру і згоды.

*

ЛІК КАТАЛІЦКІХ СЬВЯТАРОЎ на сьвеце ў ў 1966 г. выносіць 425.815. Аднак — гэты лік ёсьць недастатковы, каб абслужыць у духоўных патрэбах вернікаў усяго сьвету; а ў Лацінскай Амэрыцы бракуе больш як 50% духавенства.

*

ЛЁНДАН: Кардынал Гінан, архібіскуп Вэстмінстэру і прымас Вялікае Брытаніі, прамаўляў на Сусьветнай Канфэрэнцыі Мэтадыстаў у Лёндане і паставіў прапанову лучнасьці ўсяго хрысьціянства. Казаў, што лучнасьць павінна абняць ня толькі Цэрквы Каталіцкую, Праваслаўную і Англіканскую, але таксама і меншыя Цэрквы, як Мэтадыстаў, Баптыстаў, Кангрэгацыяністаў і іншых. — А біскуп Мэтадыст казаў, што II-гі Ватыканскі Сабор значна прычыніўся да сусьветнага экумэнізму — «пашырыўся гарызонт думкі, братэрства і дзейнасьці».

*

НЯМЕЧЧЫНА — Франкфурт: Таварыства Кнігазнаўцаў і Друкароў выдала Нагароду Міру Кардыналу Бэа і Пастару Віссэрт-Гофту за іх дзейнасьць у справе экумэнізму.

АЎСТРЫЯ: Сьвятары і студэнты ў ліку 51 чал. адбылі практыку ў фабрыках, працуючы як звычайныя работнікі. Мэта іх была — пазнаць лепш жыцьцё работнікаў, каб з большаю карысьцю працаваць пасьля ў душпастырстве.

*

ІТАЛІЯ — Рым: У выдавецтве Айцоў Базыліянаў выйшла паважная кніга — Біблія — «Сьвятэ Пысмо Старого і Нового Завіту». Перакладу даканаў а. Іван Хомэнко з арыгінальных языкоў. Спэцыяльная камісія ўкраінскіх вучоных пераглядала і прыняла гэты вертасны пераклад. Гэта будзе значны ўклад у украінскую рэлігійную літаратуру.

*

АНГЛІЯ — Лівэрпуль: Блёк зь белага мармуру вагай 19 тон, высечаны ў каменяломні ў Югаславіі, прывезьлі у Лівэрпуль для галоўнага аўтара ў каталіцкім катэдральным касьцеле.

*

АМЭРЫКА — Мільвоке: Тут адбыўся Кангрэс Касьцельнае Музыкі. Удзельнікаў — знаўцаў і спэцыялістаў — сабралася да 2.000: разважалі, як прыспасобіць касьцельную музыку да вымогаў Ватыканскага Сабору.

*

АЎСТРАЛІЯ — Сыднэй: Памёр 30. VII. 1966 у Мараёнг кс. Аляксандар Эйсымонт з паходжаньня і характару беларус, з Горадні — чалавек ціхі, маламоўны, але працавіты і вытрывалы. Правёў у душпастырскай працы доўгія гады ў гор. Харбіне, у Кітаі і там быў прыхільнікам нашых айцоў і не забыўся беларускае мовы. Увесь Харбін яго знаў як прыкладнага сьвятара. — Вечны пакой!

*

ФІЛІПІНЫ: Разбудзілася тут місыйная дзейнасьць: неспадзявана ўзрасла колькасьць новых законных і сьвятарскіх прызваньняў, так што з Філіпін пачынаюць выяжджаць на місыйную працу сьвятары і манахі на Фармозу, у Бразылію, у Пэру, Аргентыну і Японію.

*

## АФРЫКА НЕПАКОІЦЦА — БРАК ДУХАВЕНСТВА!

Пасьля вайны аказаўся вельмі буйны ўзрост Каталіцкае Царквы ў Афрыцы — да 28 мільёнаў! Але зноў-жа такі значны прагрэс выклікае патрэбу большае колькасьці сьвятароў, законьнікаў і законьніц. Бо і прытым разьвіцьцё каталіцкага школьніцтва вымагае штораз больш новых інтэлігентных сілаў. А іх няма! І Божая ніва — ужо сьпелая — патрэбуе больш жанцоў-работнікаў, місіянэраў-апосталаў... — Ідуць, праўда, на помач з розных краёў і народаў кандыдаты, але іх усьцяж недастатак...

# З беларускае прэсы

РАДЫЁ СВАБОДА: 4 10. 1966. № 4521:

ВАТЫКАН: Папа Рымскі Павал VI на сходах Сабору Сьвятога Пятра ў Рыме адслужыў мэсу за захаваньне міру. У часе багаслужбы на плошчы перад Саборам сабралася некалькі сотняў тысяч жыхароў Рыму.

Роўна год таму — Папа выступіў на Сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН у Нью Ёрку з заклікам да ядзернага разбраеньня і да ўжыцьця сродкаў якія выдаюцца на ваенныя бюджэты для задаваленьня штодзённых патрэбаў найбольш бедных.

Папа Рымскі паслаў 3-га кастрычніка тэлеграму Генэральнаму Сакратару Арганізацыі Аб'едналых Нацыяў У Тану з падзякай за ягоную дзейнасьць, накіраванаую на аднаўленьне міру. Раней У Тан дзякаваў Паўлу VI за ягоныя высілкі аднавіць на зямлі мір.

Орган італьянскай камуністычнай партыі — газэта «Уніта», у рэдакцыйным артыкуле заявіла, што італьянскія камуністыя падтрымоўваюць ініцыятыву Папы Рымскага адслужыць мэсу за мір ува ўсім сьвеце.

РАДЫЁ СВАБОДА: 5. X. 1966:

ВАТЫКАН: У Рыме ў сваім звароце да вернікаў, якія сабраліся перад Саборам Сьв. Пятра у ліку больш за 200 тысяч чалавек, Павал VI падкрэсьліў, што ён будзе няспынна варочацца да тэмы міру, паколькі гэта тычыцца лёсу ўсяго чалавецтва.

«Мы ўсе ведаем складанасьць міжнародных палітычных абставінаў і, нажаль, абгрунтаваная боязь, што яны могуць яшчэ больш завойстрыцца, — сказаў Папа. — Але дасягненьне міру нельга ўважаць немагчымым. Вось таму мы будзем маліцца аб міры, асабліва аб міры на Далёкім Усходзе, міры, які гарантаваў-бы свабоду і дабрабыт народам у гэтай частцы сьвету. Але гэты мір не павінен быць устаноўлены шляхам гвалту: ён зможа быць дасягнуты толькі шляхам перамоваў.

Папа падкрэсьліў, што сапраўдны і трывалы мір ня можа грунтавацца на сіле сьмертаноснае зброі. Ён мусіць быць пабудаваны на аснове салідарнасьці ўсяго чалавецтва.

РАДЫЁ СВАБОДА: 30. IX. 1966:

МЕНСКУ 900 год. — На працягу ўсей гісторыі Менск часта разбураўся пажарамі войнаў. І ўсё-ж заўсёды захоўваў сваё аблічча... Нажаль цяпер... пачалі нішчыць гістарычныя помнікі.

Шмат старажытных будынкаў дашчэнту разбурылі. У лепшым выпадку некаторыя перабудавалі на гаражы, склады, тэатры. Напрыклад, Марыінскі катэдральны сабор цяпер перабудаваны на клюб спартыўнага таварыства «Спартак».

Пад выглядам рэканструкцыі Менску мясцовыя ўлады пастараліся зьнішчыць усё тое, што нагадвала амаль тысячагадовую гісторыю гораду...

Тое, што захавалася ад вайны, разбураецца цяпер у мірным часе.

«Цэлы месяц дзяўблі магутныя сьцены гарадзкой вежы...»

Ад сталіцы Менску адабралі першапачатковае, летапіснае імя. Горад пачалі, як за царскіх часоў афіцыйна называць Мінскам.

...шануючы і вывучаючы слаўную гісторыю гораду, трэба дамагацца поўнай рэгабілітацыі таго імя, якое і сёньня жыве ў народзе — гістарычнага імя Менск.

СЯЎБІТ: Лістапад-Сьнежань, № 53, 1966. Вяліка-Літоўскі — (Беларускі) двумесячнік:

З рэлігійных вестак:

2.100 сьвятароў у Галіцыі і ў Прыкарпацкай Русі вывезьлі на Сібір. Зьнішчылі 20%.... Разагналі 3,000 законнікаў і 4,000 законніцаў, зачынілі 195 кляштараў. Праўда, гэта было за Сталіна, але да рэлігіі такую самую прыхільнасьць маюць і сталінскія наступнікі. (Інфармацыя датычыцьь Грэцка-Каталіцкае Царквы).

БАЦЬКАЎШЧЫНА: № 3 (636), Кастрычнік, 1966. Важнейшыя артыкулы: Мова Вялікага Княства Літоўскага, Культурная Рэвалюцыя у Кітаі. — Шкада, што няма вестак зь беларускага жыцьця ў Вольным Сьвеце!

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: З розных вестак, якіх поўна ў № 141. Верасень 1966, найбольш нас непакоіць: «Чаму на Беларусі няма Беларускіх Помнікаў?» Таксама «Напады на Баптыстаў» у Сав. Саюзе. Наагул, відаць з гэтага, як і з іншых вестак зь Беларусі, што прасьлед рэлігіі там ня сьціхае і ня зьмяншаецца.

ЗЬНІЧ: № 88 і 89. Красавік-Чэрвень і Ліпень-Верасень, 1966. Адрас: Italia, Roma, via Trontale 6415. Абодвы нумары выглядаюць вонкава вельмі эфэктыўна, нямала ілюстрацыяў. Зьмест ажыўлены і адпаведны да новых касьцельных падзеяў, асабліва рымскія весткі шмат каго цікавяць.

---

ЗАДАЧКІ

— Тата, ці то праўда — казалі хлопцы, што ў Амэрыцы вучоныя вынайшлі такое лякарства, як памажаш чало, дык усе задачкі лёгка самі рашаюцца?

— Глупства! На Беларусі зналі лепшае лякарства: лоб лішне цьвёрды, дык мазалі па мяккім месцы. Бывала як памажа пруточкам, або рамяшком, дык мы доўга ня коўзаемся на лёдзе, а задачкі рашаюцца пяруном! — Што-ж, сынок, на гэта скажаш? — Не, тата, ня трэба!

# З беларускага жыцьця

## ЛЕКЦЫІ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Найбольш выдатным здарэньнем у беларускім жыцьці ў Лёндане ў апошнім часе без сумніву курс лекцыяў з гісторыі беларускай культуры. Зарганізованы Ангельска-Беларускім Таварыствам, курс адбыўся ў памешканьні Францускага Інстытуту ў часе ад 1-га лістапада да 12-га сьнежня. Лекцыі былі у ангельскай мове.

Курс складаўся з 6-ці лекцыяў. Тэмы былі падабраныя вельмі ўдала і далі магчымасьць слухачам пазнаёміцца з рознымі галінамі беларускай культуры: літаратурай філялёгіяй, мастацтвам і музыкай. Толькі адзін з трох дакладчыкаў — а. А. Надсон — зьяўляецца беларусам. Ён чытаў лекцыі аб беларускай літаратуры 15—16-га стагодзьдзяў і аб ролі «Нашай Нівы» ў разьвіцьці новай беларускай літаратуры. Спадар А. Макмільлін, выкладчык у школе славянскіх студыяў на Лёнданскім Унівэрсытэце, гаварыў аб беларускай літаратуры 19-га стаг., а таксама аб працах Карскага ў галіне беларускай філялёгіі. Сп. Г. Пікарда, ведамы з сваіх працаў у галіне царкоўнай музыкі, гаварыў аб гравюрах Скарыны і аб беларускай царкоўнай музыцы 15—16 стаг.

Трэба горача прывітаць пачын Ангельска-Беларускага Таварыства ў галіне пашырэньня ведаў аб беларускай культуры сярод ангельскага грамадзтва. Было-б вельмі добра, каб падобныя курсы лекцыяў увайшлі ў традыцыю і арганізаваліся рэгулярна кожны год. Таксама было-б пажаданым, каб лекцыі маглі выйсьці друкам і такім чынам стацца даступнымі больш шырокаму кругу грамадзтва.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ УГОДКАЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня ў Лёндане было наладжанае Лёнданскім Аддзелам ЗБВБ у нядзелю 27-га лістапада.

Акадэмія адбылася ў Беларускім Доме. На ўвагу заслугоўвае надзвычай цікавы і добра абгрунтаваны даклад а. Архімандрыта Л. Гарошкі. Пасьля дакладу было вельмі смачна і густоўна падрыхтаванае скромнае прыняцьце.

З прыемнасьцю трэба адзначыць вялікі лік удзельнікаў на акадэміі.

## ПОСЬПЕХІ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛА

У чацьвер 24-га лістапада ў ангельскай сярэдняй Школе Чалёнэр адбылася ўрачыстасьць раздаваньня нагародаў. Большасьць вучняў Школы сьвятога Кірыла наведваюць гэтую школу.

На канцэрце ў часе ўрачыстасьці выступіў у беларускім народным строю вучань Алесь Лошка, які зайграў на акардыёне пяць беларускіх напеваў. Як сьведчылі доўгія воплескі, гэты выступ быў найбольш удалай часткай канцэрту.

На той самай урачыстасьці вучань школы сьв. Кірыла Марк Саўка атрымаў першую нагароду за выдатную навуку, а Фрыдгальм Сянькоўскі — нагароду найлепшага спартсмэна ў школе (Віктор Людорум).

## ПЕРШАЯ СЬВ. ЛІТУРГІЯ а. Р. ТУМАШАНСКАГА

Рукапаложаны на сьвятара у Кенігштайн Уладыкам Чэславам а. Рабэрт Тамушанскі адправіць першую ўрачыстую Літургію ў Марыян Гоўз ў Лёндане дня 18-га сьнежня а гадз. 10.30.

*

## АЙЦУ РАБЭРТУ Ў ДЗЕНЬ ПРЫМІЦЫІ

*З Народу гушчы выйшаў Ты —*
*Яму служыць — твой доўг сьвяты:*
*Твой покліч гэты ёсьць з рук Божых —*
*Сплаці Яму ў трудах прыгожых!*

*Народ пазнаў Ты на чужыне,*
*К' яму прыходзіш праз сьвятыню:*
*Кладзі ахвяру на аўтар,*
*Як Сам Хрыстос, бо Ты — СЬВЯТАР!*

Часлаў Кукель

*Для цікавасьці і развагі*

## САМАХОД

Няма лепшае камунікацыі як самалёт, і найскарэй і цалкам бязпечна. А колькі яшчэ людзей баяцца самалётаў?! «Іншая, кажуць, справа — аўто». Тымчасам самаход — самы зрадлівы. Колькі гіне з прычыны самаходаў, каб гэтулькі гінула ад самалётаў, ніхто-бы не паважыўся імі ехаць. — Найчасьцейшая прычына катастрофы: Залёгка даецца дазвол-*ліцэнцыя* і зарэдка адбіраецца; далей — бравура, лёгкамыснасьць, за вялікая шыбкасьць, а найгорш — п'янства. — Добра сказаў адзін крытык: «Вазіць дзяцей у самаходзе на передзе — люзам — пры кіраўніцы, — за гэта трэба караць розгамі! Не дзяцей, але бацькоў». — У Францыі за 1965 год згінула на дарогах 12.000 чал.

## ПАЦУКІ

Апрача «сьвятых» кароваў — у Індыі лічаць «сьвятымі» і пацукоў, якіх лік перавышае 2 з палавінаю мільярдаў і якія нішчаць каля 26-ці мільёнаў тон збожжа. Змаганьне з пацукамі не вядзецца таму, што вера ў «рэінкарнацыю» (перараджэньне) на гэта не пазваляе. — Страшэнны парадокс: увесь сьвет зьбірае сродкі ратунку для Індыі ад голаду, а самі індусы марнуюць збожжа . . . для пацукоў!

# З беларускай паэзіі

*Вінцук Адважны*

## ЗОРКА—ХРЫСТОС!

*Сьвеціць Зорка ясна*
*Над зямлёй няшчаснай:*
*Сам Хрыстос прыходзіць —*
*З Богам нас пагодзіць.*

*І прымножыць хлеба*
*І прыхіліць неба,*
*Дасьць здароўе ў хаце —*
*Гэта ўсё багацьце!*

*Што нам не пад сілу —*
*Бацькаўшчыну мілу —*
*Ўсім людзям на дзіва —*
*Верне нам шчасьліва!*

*У шчасьці, у згодзе*
*Хрыстос нарадзіўся:*
*Бог да нас прыходзе —*
*Сьвету аб'явіўся.*

*Пастушкі прыбеглі —*
*Чэсьць Хрысту давалі,*
*«Слава ў вышніх Богу!»*
*Ангелы съпявалі.*

*«Каляды, Каляды!»*
*Весела сьпяваем:*
*'Беларусы рады —*
*Новы Год вітаем.*

## *ХРЫСТОС — ЗОРКА БЕЛАРУСІ*

*У Хрыстовым Нараджэньні*
*Зорка заясьнела:*
*Кліча нас да Адраджэньня —*
*«Гэй, наперад, сьмела!»*

*Ў эміграцыі Сын Божы*
*Мей няшчасну долю:*
*Зь Ім мы гора пераможам —*
*Вырве нас зь няволі!*

*Хоць цяжкая скрозь дарога —*
*Мучыць вораг люты:*
*Хрыстос — наша перамога*
*І канец пакуты.*

*БЕЛАРУСЫ, Божы дзеці,*
*Верым ў Божа Імя:*
*Зорка волі нам засьвеціць —*
*З Богам не загінем!*

В. А.

## МАКСІМУ ТАНКУ Ў АДКАЗ НА «AVE MARIA»

*Што ты блюзніш, мой браток,*
*Пад камандай партыі ? !*
*Наша вера, наш Народ*
*Больш за гэта вартыя.*

*Не зацемніш яснасьць неба —*
*Вобраз Маці Жыравецкай —*
*За партыйны кусок хлеба*
*Пляміш ты хлусьнёй савецкай!*

*Наш Народ — зь якоў пабожны —*
*Сьвятасьць веры шанаваў:*
*Ты — партыйны багахулец —*
*Яе з гразёю памяшаў. —*

*Схамяніся ты, мой браце —*
*Шануй веру дзядоў, маці!*
*Край — зьняволены Масквой —*
*Плача горкаю сьлязой . . .*

Ч. Самотны

## ВОСЕНЬ

*Апусьцела ніва ў полі*
*І пажоўклі курганы:*
*Дні кароцяцца паволі,*
*Адляцелі бацяны.*

*Вецер з поўначы павеяў —*
*З дрэваў пазьдзіраў лісты,*
*Манатоннасьць ,сум пасеяў —*
*Цяжка стала на душы.*

*Спаць пара табе, зямелька, —*
*Адапчні ад працы плоднай!*
*Сыта будзе ўся сямейка*
*Ў час зімовы і халодны.*

Ч. С.

# *З лістоў у рэдакцыю*

Паважаны Айцец Рэдактар,

У 85-тым нумары «Божым Шляхам» (ліпень-жнівень 1964) быў замешчаны верш Вінцэся Каратынскага «Ой саколка, ой галубка», разам з кароткай зацемкай аб беларускіх паэтах 19-га стаг.

Ведамых беларускіх твораў Каратынскага ёсьць вельмі мала. Тым ня менш думаю, што для чытачоў будзе цікава даведацца крыху больш аб гэтым пісьменьніку. Мне ўдалося атрымаць некаторыя весткі аб ім ад ягонай унучкі, сп-ні Данілевіч. Нагодаю да знаёмства з ею паслужыла нашае супольнае зацікаўленьне асобаю і дзейнасьцю Аляксандра Рыпінскага. У часе размовы я выразіў зьдзіўленьне, што Рыпінскі дадаў слова «бялорусін» пад сваім подпісам у адным з сваіх твораў. (Гл. яго рукапіс „Krótki rys powstania powiatu Dziśnienskiego", Avignon, 1832). Сп-ня Данілевіч адказала, што ў гэтым няма нічога дзіўнага і што ў 19-тым стагодзьдзі было шмат пісьменьнікаў, — нават такіх, што звычайна пісалі па польску, якія чуліся і называлі сябе беларусамі. Як прыклад яна назвала свайго дзеда, Вінцэся Каратынскага, а таксама сваю матку, якія, паводле яе, былі гордымі з свайго беларускага паходжаньня. Каратынскі вельмі любіў беларускія народныя песьні, якіх ен меў шмат сабраных і якія ён часта сьпяваў сваім дзецям. Ён таксама навучыў дзяцей гаварыць малітвы «Ойча наш» і «Багародзіца Дзева» па беларуску. У сям'і Каратынскага было аж 8 дзяцей. Старэйшыя нарадзіліся яшчэ на Беларусі, а малодшыя ў Варшаве. Паміж імі была жаргаблівая рывалізацыя і тыя, якія нарадзіліся на Беларусі, лічылі сябе лепшымі за народжаных у Польшчы.

Пры нагодзе я хацеў-бы дадаць некалькі вестак аб Рыпінскім. Вельмі праўдападобна, што ён першы надрукаваў верш Паўлюка Бахрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Верш гэты ўпершыню быў надрукаваны ў кнізе Л. Патоцкага „Powieść z czasu mojego, albo przygody litewskie", якая выйшла ў Лёндане у 1854 годзе. Шрыфт у кнізе ёсьць аднолькавы з шрыфтам у «Нячысьціку», які Рыпінскі выдаў у сваей друкарні ў Тотэнгам у 1853 г. У тым часе існавалі ў Лёндане толькі тры польскія друкарні, уключна з друкарняй Рыпінскага. Вельмі непраўдападобна, каб дзьве іншыя друкарні, акрамя Рыпінскага, мелі асобы шрыфт для беларускага «ў».

Наканец залучаю цікавы здымак уласнаручнай заявы Рыпінскага аб атрыманьні брытанскага грамадзянства. Ён піша там, што ангельскі клімат ёсьць вельмі спрыяльны для ягонага здароўя! З заявы відаць, што ў 1857-мым годзе Рыпінскі жыў у Англіі больш як дзесяць гадоў. Такім чынам ён прыехаў у Англію напэўна ў 1846 годзе, а не ў 1849, як я раней думаў (гл. мой артыкул «Аляксандар Рыпінскі ў Лёндане», Божым Шляхам, № 86, Верасень-Кастрычнік 1964, б. 9). Таксама мне ўдалося даведацца, што ён нарадзіўся ў 1811-тым годзе.

З глыбокаю пашанаю

**Г. Піхура**

## БЕЛАРУСЫ Ў АМЭРЫКАНСКАЙ АРМІІ



Сярод лекараў амэрыканскіх ваенных сілаў ёсьці і лекары беларусы, паміж каторымі годны нашае ўвагі доктар мэдыцыны Юры Чарнэцкі.

Ю. Чарнэцкі выэміграваў з бацькамі як 5-ці гадовы хлапчук у 1944 годзе. Прыходзілася яму перанесьці шмат труднасьцяў і недастаткаў і прабываць у розных месцах, дзе бацькі працавалі на нямецкіх фабрыках; а пасьля капітуляцыі немцаў быў у польскіх і ўкраінскіх ДП. лягерах, дый там наведываў школы адных і другіх — аж толькі ў 1946 г. апынуўся ў беларускім ДП лягеры і стаў наведваць школу ў роднай мове.

У 1949 г. Юры з раднёю выэміграваў у Аўстралію: там — па скончанай навуцы ў пачаткавай і сярэдняй школах, прыватных каталіцкіх, здаў матуральны эгзамін на выдатна перад урадовай камісыяй і атрымаў поўную стыпэндыю на мэдычны факультэт унівэрсытэту гораду Сыднэй.

Ня ўдалося аднак цяперашняму доктару карыстаць з гэнае стыпэндыі, бо ў 1957 выехаў з бацькамі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Тут у Амэрыцы ён пасьпяхова скончыў мэдычныя навукі і ў 1964 г. стаў дыплямаваным доктарам. Пасьля году практыкі пры шпіталі яго паклікалі ў ваенны марскі флот, дзе цяпер лечыць матросаў і іхныя сем'і.

У РЭДАКЦЫЮ ПІШУЦЬ: — Ужо трэці месяц, як выехаў ў Чыкаго з Соўтгамптон (Лёнг-Айлянд), а гэта ёсьць вялікі востраў, што цягнецца ад Брукліну ў мора. Там я пачуваў, што маё жыцьцё камусьці патрэбнае.

Тутака сабралася нас пяць старэнькіх сьвятароў, якія ня ведаюць дзеля чаго і каму патрэба, каб яны жылі, маючы адзін 80 гадоў, другія — 77, 75, 79 і 77, дый яшчэ адзін уміраючы ў шпіталі.

Ведама, ніхто жывы ня хоча лезьці ў магілу! Усе мы дзякуем Богу за жыцьцё і просім, каб нас яшчэ патрымаў на гэтай зямельцы...

Затое Супэрыёр маладзенькі, вельмі добры, якога я хрысьціў, вучыў у нашай парахвіяльнай школе, а пасьля прывёў да сьвятарства: ён стараецца нам усім асаладзіць нашую старасьць. — Дай яму, Бог, здароўе!

Цяпер я пазнаёміўся з доктарам Саўковічам, які мне зрабіў маленькую апэрацыю: ён Вам пасылае прывітаньне.

9. верасьня 1966. **а. М. Урбановіч**

*

Калі гэты Айцец так сумна піша аб старасьці, дык з Аўстраліі ідзе весялейшы тон: — У нас ужо другі месяц, як пачалася вясна: ўсе дрэвы зялёныя. Шматлікія цьвітуць — вельмі прыгожа! Праўда, пэрскоўцы ўжо амаль перацьвілі, а цяпер нашыя грушы і яблыні стройныя кветкамі — адно дрэва аж заглядае праз вакно! Так цешуся і хвалююся і перажываю свае іншыя вёсны — там на Бацькаўшчыне.

Вясна, а вясною ўсюды, дзе-бы яна ня была, прыгожа. Праўда, у нас тут яна менш адчуваецца, бо і зімою было зелена і цьвілі кветкі, ня было ні марозу, ні сьнегу, але ўсё-ж! новая зелень і сьвежыя колеры, яснейшае сонца і даўжэйшы дзень дадаюць новых сілаў і большай ахвоты да жыцьця.

І таму, хаця ў вас «залатая восень», жадаю вам новых сілаў і здароўя, добрага самапачуцьця і добрага гумару...

Мэльбурн, 2. X. 1966.

*

А з Нямеччыны: — вось што да крытыкі Вашага Часапісу я бачу ў ім толькі дадатнія якасьці, бо і сапраўды гэта ёсьць адзін з найвыдатнейшых часапісаў, як па актуальнасьці так і па зьместу і падбору матар'ялу. Хтосьці зрабіў Вам закід за зьмяшчаньне лістоў ад нашых суродзічаў раскінутых па розных краінах сьвету, скуль яны апісваюць аб умовах жыцьця ў даных краінах. Я асабіста ўважаю, што якраз такія лісты і робяць часапіс цікавым і блізкім — тым сапраўдным лучнікам расцярушаных беларусаў па ўсім сьвеце .Як важна даведацца аб адным-другім сябры, зь якім калісьці на шляху выгнаньня дзесьці сустрэліся, супольна працавалі на грамадзкай ніве, а потым ізноў былі лёсам разлучаны хто куды! Актуальныя палітычныя навіны кожны можа даведацца з прэсы данага краю. А час. «Божым Шляхам» мусіць служыць іншым мэтам — інфармаваць нас узаемна аб нашым беларускім жыцьці ў галіне грамадзка-рэлігійнай і навуковай... **Часлаў Самотны**

*

І з Амэрыкі — Нью Ёрк: — Прыйшоў час, калі я знайшоў пару хвілін, каб Вам выслаць грошы за «Божым Шляхам» і падзякаваць Вам за тое, што гэтак доўга слалі задарма, як выглядала! Ваш часапіс вельмі-вельмі мяне цікавіць, бо я ў ім знаходжу шмат з гісторыі і рэлігіі, чаго я зусім ніколі ня чуў. На доўгі адказ на Ваш «Зварот да Паважаных Чытачоў» я ня мог даць адказу, бо ў мяне было шмат прычынаў — жаніцьба і пераход у другі дом, дык, калі ласка, заўважце мой новы адрас і паведаміце, ці Вы атрымалі высланае на Ваш паважаны Часапіс?

**К. В.**

*

І з Францыі: — ...пазволю сабе напісаць некалькі слоў. Маё жыцьцё ідзе роўным тэмпам. Маю адпачынак на берагу высокіх скалаў і вялікіх пляжаў, над морам Атлянтыцкім. Тут шмат пяску, а дзюны засыпаюць дрэвы-сосны, калючыя ажыны і паўсухую траву. Толькі хвалі шумяць і вецер сьвішча, як у нас на мяцеліцу на Беларусі. А гэтую мясцовасьць завуць «Дзікі Бераг», бо сапраўды ён дзікі! Дрэвы ўміраюць стоячы — нават купацца нельга і небясьпечна.

Так вось і прырода мае сваю дзікасьць, як часам і людзі. Мора выкідвае розную дрэнь — карчы дрэваў, абломкі старых чаўноў, бочкі ад мазуту і масу марское травы. А старыя ваенныя караблі мора ня здолее выкінуць, бо жалезныя і вялізэзныя, дык тут-жа стырчаць над берагам. Аднак мора дае сабе раду і з гэтай дрэньню: іржа марское вады паволі праядае іх. А які мэталь трымаецца, дык малюскі і ракавіны точаць іх так, што за сто гадоў і знаку ня будзе!

Дык вось як мора бароніцца перад усякаю брыдою. Нават і чалавек так не патрапіць! І людзі ў сяньняшнім тэмпе жыцьця падобны да гэтага мора: працуюць бяз перапынку, бо — кажуць — няма часу! Пацеюць на фабрыках або на будовах па 54 ці 60 гадзін у тыдзень. А як прыйдзе нядзеля, дык дома яшчэ больш работы: жонка капаецца ў гародзе, а ён пайшоў з рыдлёкаю капаць фундамант пад дом суседа. А на Зялёныя Сьвяткі — аж тры вольныя дні, дык яшчэ цяжэйшая работа! Трэба вазіць каменьні і цэглу і шмат іншае фатыгі...

О, пэўна так не сьвяткавалі нашыя бацькі!

А тут і на Вялікдзень работы хоць задушыся: трэба рэмантаваць дом, перачысьціць аўто. — Прыйдзеш віншаваць — скажаш: «Хрыстос Ускрос!» а ён — мой дарагі суродзіч — запэцканы мазяй — глядзіць і ня ведае, што сказаць... — Дык вось як сьвяткуем найбольшае Сьвята!

Газэты пішуць аб нэрвовых хваробах, а дахтары, прафэсары, сацыялёгі робяць нарады ў Парыжы або Жэнэве, але не паказваюць прычыны хваробаў. А тымчасам чалавек — не машына: ня можа працаваць бяз перапынку. Жанчына аддае дзяцей у яслі і сама таксама на рабоце. Дом апусьцелы — няма сям'і — «Мёртвы Дом»: дзеці гадуюцца бяз матчынай ласкі і без бацькавага вока і слова, дый чужыя рукі заступаюць... Значыць, дзеці без бацькоў становяцца «бязпрызорнымі», як у таго Сталіна.

Дзеці і моладзь шукаюць радасьці жыцьця, дый ня могуць знайсьці! Вось бацькі паехалі ў нядзелю кудысьці, а дзяцей пакінулі ў суседкі (проста, уцяклі ад дзяцей!) — Так моладзь, пакінутая самапасам, лёгка трапляе на блудныя дарогі... З гэтага бываюць суды і турмы, якія моладзі не паправяць.

**Віктар Ж-віч**

# Што Беларус кажа аб Аўстраліі

Я папярэджу Вас, што я ня пісьменьнік! Аўстралія — краіна вечнага лета (хаця я хаджу ўвесь час у суконным сьвітары), — паўгоду суха, паўгоду лье дождж. «Заработак: лепш прайграці ў коні, ці ў сабакі, чым мець клопат з пабудоваю жыльля!» так некаторыя гавораць. А нам зайздросьцяць, што мы за 15 год ды нешта нажылі: амаль кожны мае сваё аўта, калі той (разумны!) ходзіць пешкі, дый сьпіць як сьвіньні (на свае вочы бачыў я такіх: сьпіць на газэтах і імі-ж накрываецца!)

Нас тут ня любяць: апошніх прыймаюць на працу і першых звальняць. На кіраўнічых становішчах нашых вельмі мала. Ну, што-ж? страцілі бацькаўшчыну, страцілі ўсё!

Кожная сем'я жыве сваім жыцьцём — ня так як было ў нас: вечарам пасядзець на прызьбе, пагутарыць, а тут сусед да суседа ня пойдзе. Больш таго: да майго суседа прыяжджае дачка за 100 міляў і... нават з аўта ня вылазе, а так пагамоняць з паўгадзінкі, — дый усё. Паверце! Я ўжо жыву з суседам 15 год, ну, і ня ведаю, як ягонае прозьвішча, а ён майго, бо як кожную раніцу бачымся, дык усё начай мяне называе.

У суботу да абеду горад жыве і пульсуе, а па абедзе ў суботу і ў нядзелю якбы ўсё вымерла — нікагусенька ня ўбачыш! Аж у панядзелак рана зноў усё закіпіць, — так з году ў год. Таму для нас цяжка — такі сум, бо мы выраслі зусім у іншых абставінах. Дык жыву і веру, што я — між людзьмі, як «Робінзон»: толькі што таго сілаю высадзілі, а мы прыбылі дабравольна. Зразу, як сюды прыбылі, то па прывычцы нам і дзен не хапала, каб быць адны ў другіх; а цяпер — наглядзеліся на тутэйшых, ці пабагацелі — і ніхто да нікога з нашых ня ходзіць!

Я знаю аднаго, што калісьці сьвіньней кармілі ў хаце, а тут зайшоў да яго ў нядзелю, дык зара крычыць: «Куды лезеш у чаравіках? Ці-ж не бачыш, што дыван разасланы — разуйся! Ну, што-ж? Што было на бацькаўшчыне, усё загінула: нанюхаліся чужога смуроду...

Марнатраўства тут кругом — усяго не апішаш. Яшчэ няма двух гадоў, як кончылі новы шпіталь на 1000 ложак, а ўжо ў гэтым годзе зьдзёрлі ўсю страху і палажылі новую, знакам тым, была небасьпека ад пажару, а раней гэтага ня ведалі (?). Цікава, як на доўга гэтая будзе «бясьпечна»? Каб усё апісаць, што тут чаўпецца, дык была-бы вялікая Біблія.

Я думаю, што і Вам ведама: у Сыднэі пачалі будаваць орэру на тысячу глядачоў,а мела каштаваць мільён фунтаў і ў гэтым годзе мела быць скончана, а ўжо каштуе пяць мільёнаў! Я-ж летаў у Сыднэй, як дачка канчала школу і пайшоў паглядзець тую опэру: хоць я ні архітэткт, а пасьмяяўся — ніякага выгляду — даслоўна «чарапаха» — псуе ўвесь горад! І ўжо будзе — кажуць — на пяцьсот глядачоў...

Адносна прыроды, то-бы я сказаў — яе няма зусім — у параўнаньні з нашай дарагой Беларусьсю. Я аб'ехаў амаль усю краіну і скрозь тоесамае: дзікія калючыя кусты — іх завуць «буш». Дрэвы дзе-нідзе высокія эўкаліпты: цяню пад імі няма ніякага, бо лісты стаяць на рабро, як хто далонь паставіць на стол. Як вокам кінуць — кусты і рыжая ссохшая трава: узімку, як ліюць дажджы, трава зелянее, а пасьля ізноў рыжая. Дрэвы лістоў ня скідаюць, а толькі кару і пад кожным дрэвам горба кары, ад чаго і бываюць вялізныя пажары, што трываюць па колькі тыдняў. — Вось-жа «паляжаць на траве ў цяньку», як у нас гаварылі, тут трэба забыцца.

Будучы ў Нямеччыне, я ўяўляў сабе, як прыгожа на «вялікім сьвеце», — аж зусім наадварот — няма на што і дзівавацца! Так усё абрыдла, а найбольш гэтая аднастайнасьць: няма ніякае красы, ані перамены, як у нас бывае — вясна, лета, залатая восень і беленькая зімка. — тут уся краіна як блін, дзе-нідзе ўзгоркі: зямля амаль усюды камяністая Зьверху мягкая, а зара скала, або гліна ў самую глыбіню. Я капаў сабе студню і дастаў добрую ваду. А так людзі робяць плаціны — гацяць узімку, як ідуць дажджы, каб мець ваду на лета; а фармары зьбіраць у вялізныя бочкі, як ліецца са стрэхаў. Дык вада тут даражэй за віно; а бывае, што фармэр скарэй угосьціць півам як вадою.

Пагода: паўгода жарыць як у пекле, а паўгода ліе як зь вядра, а вятры кажны дзень. І пагода можа мяняцца некалька разоў у суткі:
то холадна — кажух накладай, то пячэ, хоць вылазь са скуры. У нас амаль вечны катар: чхаем па сто разоў на дзень! Так пячэ бяз перапынку — за дзень натрэш скуру — чырвоная як сьліва. Сьпіцца, як халадней, пад пярынаю; у горач — «як мама нарадзіла!»

Рэчкі на ўсю краіну толькі дзьве, якія маюць ваду ўвесь час, а іншыя — толькі ўзімку, а летам сухія — толькі логава!

*

Дзе я пражываю ў даны момант — гэта маленькі гарадок — трынаццаць тысяч насельніцтва. Як сюды я прыбыў у 1950, дык было толькі паўтары тысячы і быў тут даслоўна сьметнік, ды і цяпер ня лепш. Разлёгся гарадок над самым морам (порт). — Калісьці, як я быў яшчэ вучням, (у 1929), паехалі мы на вакацыю ў Гдыню на Балтыцкае мора, дык я надта завідываў тым, што там жылі; а цяпер і сам жыву — больш таго — з хаты бачу мора, бо дзесяць хвілін хады; але-ж і ўглядацца ня хочацца — так усё абрыдла! Даўней любіў лавіць рыбу, а тут і гэта няміла; ды і рыба не нашая — марская, нясмачная, пахне ёдам (гэта ня нёманская!). Жонка ходзіць к'мору. А я лепш што пачытаю, ці зраблю тое-сёе пры хаце. Вельмі люблю кветкі і маю перад хатай агародчык і так дагледаю, што праходзячыя цешацца і хваляць. А растуць яны ў мяне цэлы год і нават папрасіў, каб з дому прыслалі мацейкі: цьвіце яна ў ночы і дае на ўсю вуліцу прыемны пах і духмянасьць.

Вось Вам усё збольшага, што ўмеў, напсаў Вам, ці «напэцкаў» пра Аўстралію. А цяпер штоколечы аб сабе — аб жыцьці-быцьці. — Але яшчэ забыўся сказаць аб тутэйшых адвечных людзях, як называюць «абарыгенах». Яны — нізкага росту, тонкія рукі і ногі, чорныя як ваксаныя боты, вочы белыя, далоні чырвоныя і язык як кроў, зубы белыя як рэдзька, валасы кучаравыя. На далёкай поўначы Аўстраліі ёсьць спэцыяльны запаведнік для чор-

# *Байкі і жарты*

*Вінцук Адважны*

## ЧМЕЛЬ І ПЧАЛА

*Касматы чмель дзяцей трывожыў —*
*Гудзеў ...*
*Ён думаў, што пяець прыгожа,*
*Дый лез у кветку сьмела —*
*Аж кветачка дрыжэла!*

*А пчолка — скромная, ціхая —*
*Працуе і сьпявае.*
*І кветкі пчолку знаюць —*
*Цалуюць, абыймаюць. —*

*Так чалавек жыве ў прыродзе —*
*Па кветках бродзе:*
*Адзін іх топча як той конь,*
*Або кідае у балота, ці ў вагонь ...*

*А іншы кветачку шануе,*
*Дый марнаваць шкадуе. —*
*Так чалавек абходзіцца зь людзьмі —*
*З сірочымі сьлязьмі.*

*

*Душа дзіцячая і нашая надзея —*
*Ад Бога дадзена, як райская лілея, —*
*Ці-ж марнавацца ёй ў юнацтва дні —*
*Ў балоце, ці ў грахох, як у вагні?!*

## НАЛПА І АКУЛЯРЫ

*На старасьць налпачка на вочы прыслабела.*
*Ды што-ж? вяліка дзела ...*
*Бо, кажуць, трэ' здабыць ёй акуляры.*
*Дастала тры-чатыры пары,*
*Дый імі дай лячыцца —*
*І нюхаць і лізаць*
*На хвост нізаць,*
*Круціцца!*
*— Якія, кажа, чары?*
*Не памагаюць акуляры! —*
*Не дарма кажуць, што «людзкая рада —*
*Толькі здрада!» —*
*Зманілі мне нікчэмна*
*І грошы страціла дарэмна. —*

*Схапіўшы акуляры ў жменю,*
*Тут налпа гэтай дрэньню*
*Аб камень так замалаціла,*
*Што ў брызгах сонца засьвяціла!*

*

*Культурай невук пагарджае:*
*Свой розум выстаўляе,*
*Якога аніяк ня мае.*

---

ных: там іх пяць тысяч і туды нельга заходзіць бяз асобнага дазволу, бо і небясьпечна — можна трапіць ім на катлеты. Толькі прапускаюць туды вучоных дасьледчыкаў, ды і то даюць ім спэцыяльную ахову.

Другая частка — ўжо крыху цывілізаваныя чорныя, якіх можна пабачыць у кожным горадзе: апранаюцца, шукаючы дрэні на сьметніках, ці хто дасць з ласкі; жывуць вонках гарадоў у буданох-будках, правоў ніякіх не маюць. Забаронена ім уваходзіць у публічныя месцы, у бары (піўныя); кураць усе, п'юць дэнатурат, які неяк ухітраюцца даставаць. Ні робяць нічагусенька! Перш урад даваў ім грошы на яду, але яны зара прапівалі, а пасьля жабравалі. Цяпер даюць ім тыднёва прадукты на тыдзень. Ім пабудавалі хаткі, але яны іх папалілі. Цяпер будуюць усё з устойлівых матар'ялаў, каб ня жылі ў будках — хаткі даволі належныя, з кухняй і ваннай. Дык ужо магчыма пражыць бяз клопату і некаторыя маюць аўто, але ўсёроўна працаваць ня хочуць. Пару разоў у год маюць свае сьвяткі: зьбіраюцца ў групы — да соткі людзей і гуляюць цэлымі начамі, напіваюцца і выкрыківаюць нешта па свойму. Аднак гаварыць у сваей мове ня ўмеюць: неяк ламаюць па ангельску. Музыка іх — б'юць кіямі ў парожную бочку ...

Я то нагледзіўся на іх, як сам жыў за горадам і ноччу пільнаваў курэй, каб не пакралі на закуску.

**Ч. Канстантыновіч**

*

## СУСЕДЗІ

*Якуб:* — Ці можаш мне, суседзе пазычыць сто даляраў?

*Тамаш:* — А калі-ж мне аддасі?

*Якуб:* — Аддам, калі пасьпею, перад канцом сьвету.

*Тамаш:* — Што гаворыш? ці ты здурнеў ...

*Якуб:* — Дый не! Бо я чытаў у газэце, што Амэрыка мае такія бомбы, што могуць раздрабіць цэлы сьвет. А Масква хваліцца, што мае яшчэ мацнейшыя. — Значыць ...

*Тамаш:* — Калі так, дык магу пазычыць: толькі — на ўсякі выпадак — дай мне расьпіску на тры месяцы!

## ЧЫЯ МОВА ЛЕПШАЯ?

*Украінец:* — Чаму вы, беларусы, так часта ўжываеце літару «А»? Бо ў вас бываюць словы, у якіх «А» ставіцца 3-4 разы, або і пяць!

*Беларус:* — Ну, і што з таго?

*Украінец:* — Гэта паказывае, што вы з усяго зьдзіваваныя: тады вы кажаце: «А-а-а ...»

*Беларус:* — Што-ж? можа і праўда ... Толькі-ж у вас яшчэ часьцей ставіцца «І» — у словах, між словамі і на канцы. Але вам здаецца таго яшчэ мала: тады вы ставіце над «І» па дзьве кропкі!



*Паляваньне у Белавежы — (XVII стаг.)*

## МАЛЫ ФІЛЯЗОФ

8-мі гадовы Кастусь любіў аб усім пытацца, але зара сам даваў свае адказы. Паслухаем:

Кастусь: — Мама, чаму іншыя людзі напіваюцца?

Мама: — Ня ведаю, сынок!

К — А я сам ведаю!

М — Ну, скажы, чаму?

К — Бо яны хочуць быць разумнейшымі.

М — Тады яшчэ горш дурнеюць.

К — Ага! а, мама, думаеш, што я гэтага ня ведаю? Ого...

✳

*Кастусь:* — Мама, чаму тата ня мог рашыць маей задачкі?

*Мама.* — Мусіць лішне трудная?

*Кастусь* — Дый не — зусім ня трудная! Бо я пасьля думаў, думаў — аж нарэшце...

*Мама:* — Што, ты сам рашыў? Вось і маладзец!

*Кастусь* — Дый не!.. нарэшце і я сам ня мог рашыць.

## ДЫЯЛЁГ У ПЕКЛЕ

*Бэльзэбуб:* — Сабор кончыўся! Можна і нам адпачаць. —

*Люцыпар:* — О, зара Біскупы возьмуцца за рэформы, а нам будзе яшчэ горш!

*Бэльз.:* — Ня бойся! Нашыя чэрці падсыпяць ім соннага парашку і ўсё астанецца па старому.

*Люц.:* — Ты глядзі! Павал VI выдумае нешта новае, а на яго парашкі ня дзеюць. — Дый трудна ў пекле быць аптымістым!

## МІЖ СУСЕДКАМІ

*Агата:* — Кумачка, вось якое ў мяне здарэньне!

*Марыля:* — Ну-ну?

*Агата:* — Іду я даіць карову і кажу: «Ах, цялушачка! ці дасі мне малачка?» — А яна кажа: «Добрая цялушачка: то-ж я сама мела ўжо дзесяць цялятак!»

*Марыля:* — Што ты, кума, зь мяне жартуеш?

*Агата:* — Сапраўды-праўда! я не жартую.

(Тут Марыля глядзіць — то чырванее, то бялее ..)

*Агата:* — Чаго-ж ты, суседачка, спужалася? Гэта-ж усё мне сьнілася!

*Марыля:* — А бадай цябе! Я і сапраўды падумала, што ты здурнела...

✳

## ДУМКІ З КНІЖАК І ІНШЫЯ...

Барадзьбу із злом, якое ёсьць у чалавеку, мы павінны весьці ня судзячы другіх, але *судзячы самых сябе.*

Змаганьне з самым сабой і праўдзівасьць перад самым сабой — гэта ёсьць спосаб, каб уплываць на другіх.

Кожную мінуту жыцьцё пачынаецца нанава. Аман.

Людзі не маюць паняцьця, чаго можа даканаць адзін сьвяты, бо *сьвятасьць* ёсьць мацнейшая ад усяго пекла. (Г. Мэртон).

Пакуль пачнеш асьвячаць іншых, папрабуй сам быць сьвятым.

Чалавеку не хапае, што сам шчасьлівы: трэба яшчэ, каб іншыя ня былі. (Морыяк).

Найбольшыя сьвіньні дамагаюцца звычайна ад людзей, каб яны былі ангеламі.

Аказалася, што найбольшую магутнасьць мае найменшая частка матэрыі (атам).

✳

«Каін зьбялеў ад страху» (Прыказка нэграў).

Пэсыміста — гэта чалавек, які думае, што ўсе такія драні як ён сам. (Юліян Тувім).

Хто стаўся сьмешным, ня выклікае страху. (І. Гварэскі).

Ленін — чортаў сват, Сталін — яго брат, а Хрушч — толькі Юда. (Эмігранцкая прыказка).

У калгасе баба, як у квасе жаба. (Вінц. Адв.).

Як ня маюць чаго сказаць, — мужчына маўчыць, а жанчына гаворыць. (Ірляндская прыказка).

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

Рэдакцыя «Божым Шляхам» з Калядным і Навагоднім — 1967 — віншаваньнем — зьвертае Вашую ўвагу на 1-шы нумар Новага Году, нумар юбілейны — 100 — СТО!

Гэта ёсьць вялікі пройдзены этап нашае выдавецкае працы. Найбольшую заслугу меў у гэтым В. П. а. Архімандрыт Леў Гарошка, які рэдагаваў «Божым Шляхам» у Парыжы.

Падняўшы гэтую справу з пачаткам 1964 г. ад № 82-га — у больш скромным вонкавым разьмеры і вартасьці зьместу, мы — пры Божай ласцы — вось дайшлі да № 100.

Рэдакцыя сардэчна дзякуе ўсім Дарагім Супрацоўнікам нашага часапісу! Паважаных Чытачоў перапрашаем за ўсе недахопы, а Дарагім Прыяцелям дзякуем за ласкавую помач. А надалей настойліва просім Пав. Чытачоў прысылаць належную падпіску! Да гэтага апэлюем, паклікаючыся на Ваш гонар і сумленьне.

А Дарагіх Прыяцеляў пакорна просім — пры аказіі нашага ЮБІЛЕЮ — падтрымаць «Божым Шляхам» больш шчодра.

З даўжнікамі пэўна-ж судзіцца на гэтым сьвеце ня будзем, аднак мусімо выразіць ім наш глыбокі жаль і журботу — ня так за тое, што не аддалі падпіскі, як таму, што нас не разумеюць і не падтрымалі ў цяжкой працы . . .

Уступаему Новы Год з надзеяй на Бога й на ласкавасьць добрых людзей.

Рэдакцыя «Божым Шляхам»








**У аўтара можна купіць в. паважную і цікавую кніжку «КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА». Гэтая кніжка разам з кн. «Князь і Лапаць» — для чытачоў «Божым Шляхам» па зьніжанай цане — 3 даляры, або 1 фунт, або 10 фр. фр. ці 10 ням. марак**

**«Кітай—Сібір—Масква» пераложана і выдана ў Лёндане ў фірме «Veritas» зь беларускага на польскую мову і ў Гішпаніі перакладаецца на гішпанскую.**

**Тымчасам можна купіць у аўтара з польскім тэкстам у Рэдакцыі «Божым Шляхам» па зьніжанай цане 15 шыл., або 3,25 дал. Або у выдавецтве «Veritas»: 4-8, Praed Mews, London, W. 2. England. Цана 21 шыл., або 3,50 дал.**

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Я. Гэрмановіч

*Памажы, Сястрыца-Браце,*
*«Божы Шлях» нам будаваці!*
*Пішам мы, друкуем, множым,*
*Каб ішлі Вы «Шляхам Божым».*

*Шлях наш трудны і цярністы —*
*Вам даём у рукі чысты,*
*Просты, ясны і прыгожы,*
*Каб Вы зналі шлях свой Божы. —*

*Бо наш вораг на Усходзе*
*Шлях у пекла нам гародзе:*
*Замест цэркваў і касьцёлаў*
*Строіць турмы голаў-ў-голаў. —*

*Турмы — цёмныя палаты,*
*Дзьверы моцныя і краты:*
*Там — людзей як на кермашы —*
*Беларусы, браты нашы!..*

*Блудзяць там калгасным шляхам,*
*Дзень і ноч жывуць пад страхам,*
*Бо камуна, як калода,*
*Там трымае ўсіх падсподам*

*Бачыць Бог, што — на сумленьне —*
*Клічам Вас да адраджэньня;*
*А як пройдзе ліхалецьце —*
*Няхай шчасьце ўбачуць дзеці!*

*Птушкі ўсе сваей парою*
*Так сьпяшаюцца вясною,*
*Каб хутчэй свой край убачыць! —*
*Мусіць гэта нешта значыць?*

*Часопіс наш, як друкуем,*
*Мы — падобна — так мяркуем,*
*Каб у край наш, Сястра-Браце,*
*«Божы Шлях» Вам паказаці.*

*Памажыце нам — мы клічым*
*І на гонар Ваш мы лічым,*
*Што — ці здалеку, ці зьблізку —*
*Нам аплаціце падпіску!*

---

ЗЬМЕСТ:




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.